6 красавіка 2018 | № 12 (575)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







«Sprobujte latynku, ce ne strašno»

Стар. 9









# Пачалося?

## Падаецца, што ўлады ўжо рыхтуюцца да выбарчай кампаніі



Сяргей ПУЛЬША

«Навошта вы верыце ў ахінею — у правядзенне датэрміновых выбараў, якую ўкладаюць у галовы некаторыя эксперты», — раз’юшылася Лідзія Ярмошына падчас сесіі парламента. Паводле яе, ніякай гаворкі пра датэрміновыя выбары не ідзе. Гаворка ідзе пра тэрміны правядзення выбарчых кампаній, сказала Ярмошына, падкрэсліўшы: гэта прынцыпова розныя паняцці.

Між іншым, гэтую "ахінею" ўклала ў галовы сама Лідзія Міхайлаўна, не раз кажучы пра тое, што парламенцкія і прэзідэнцкія выбары ў 2020 годзе сумяшчаць складана. А таму адна з кампаній будзе перанесеная на 2019 год.

У прынцыпе, не важна, як гэта называць: датэрміновымі выбарамі ці «пасоўваннем тэрмінаў правядзення выбараў». Галоўнае, што нейкая з гэтых кампаній сапраўды пройдзе раней. А раўнівае стаўленне да азначэнняў з боку кіраўніцы ЦВК толькі падкрэслівае балючасць пытання.

А гэта азначае, што ўлады ўжо зараз заклапаціліся выбарчай кампаніяй. І нейкія яе рысы пачынаюць вымалёўвацца.

Па-першае, кампанія пройдзе як звычайна. Выконваць рэкамендацыі АБСЕ хаця б па касметычным рамонце нашай выбарчай сістэмы ўлада не будзе. Спадарыня Ярмошына знайшла для гэтага чарговую «адмазку». Маўляў, Аляксандр Рыгоравіч думае над правядзеннем у краіне рэферэндуму па змене Канстытуцыі. І да тых часоў, пакуль гэты рэферэндум не пройдзе, ні пра якія змены ў выбарчае заканадаўства размовы быць не можа. Нават пра тыя, якія падрыхтавала сама Ярмошына ў рамках працы адмысловай міжведамаснай рабочай групы.

Нагадаем, што пра магчымыя змены ў Канстытуцыю Аляксандр Лукашэнка думае ўжо гадоў пяць. З таго часу, як ён ліквідаваў у краіне гаспадарчыя суды. А між тым, у Канстытуцыі застаўся прапісаным Вышэйшы Гаспадарчы суд, што, зразумела, ужо не мае нічога агульнага з рэчаіснасцю.

Хаця б ужо таму Канстытуцыю трэба змяняць, і гэта можа адбыцца толькі на рэферэндуме. Але галоўнае, што думае Лукашэнка ўжо доўга. І будзе думаць яшчэ. Колькі — невядома. Па логіцы Ярмошынай, увесь гэты час выбарчае заканадаўства павінна стаяць на месцы і не варушыцца.

Па-другое, зноў, «як звычайна» перад выбарамі, будуць закіскаць гайкі. Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала праект зменаў у закон аб сродках масавай інфармацыі. І там ёсць багата навацый.

Напрыклад, інтэрнэт-сайты могуць добраахвотна рэгістравацца як СМІ. Але на незарэгістраваныя інтэрнэт-выданні будуць распаўсюджвацца абавязкі і адказнасць, прадугледжаныя законам аб СМІ.

Новымі папраўкамі ўводзіцца абавязковая ідэнтыфікацыя асобаў, якія змяшчаюць інфармацыю ў інтэрнэце, у тым ліку ў каментарах і на форумах. Прадугледжваецца абавязковая мадэрацыя інтэрнэт-рэсурсаў, адсутнасць якой можа прывесці да блакавання сайта. Разглядаецца магчымасць блакавання асобных сацыяльных сетак цалкам у выпадку адсутнасці тэхнічнай магчымасці абмяжоўваць доступ да іх элементаў ці нежадання іх уладальнікаў выдаляць інфармацыю на патрабаванне дзяржавы. Абмежаванне доступу да інтэрнэт-рэсурсаў пад-




**Кожную перадвыбарчую кампанію ўлады пачыналі з ціску на СМІ. А значыць — хутка выбары?**

нейшаму будзе ажыццяўляцца ў пазасудовым парадку, а для зарэгістраваных інтэрнэт-выданняў такое блакаванне можа прывесці да пазасудовага скасавання рэгістрацыі.

Больш за тое, блакіроўка можа адбыцца не толькі ў пазасудовым парадку, але і без папярэджання Мінінфарму — у выпадку, калі «інтэрнэт-рэсурс ажыццяўляе дзейнасць, забароненую заканадаўствам Беларусі». Улічваючы, што ў кожнага чыноўніка сваё паняцце «забароненай заканадаўствам дзейнасці» (мы гэта неаднаразова выдатна бачылі), запланаваныя змены ў закон дадуць вельмі шырокае поле для адвольнай «зачысткі» інтэрнэт-прасторы.

Не кажучы ўжо пра тое, што выканаць новыя патрабаванні Мінінфарму немагчыма ані тэхнічна, ані фізічна.

Як мы можам «ідэнтыфікаваць» каментатара, калі каментар ідзе, скажам, праз профіль у Facebook? А Facebook, у сувязі з нядаўнім скандалам па перадачы персанальных дадзеных карыстальнікаў, увогуле закрые перадачу такіх дадзеных? Як можна вылічыць IP-адрас каментатара, калі ледзь не кожны браўзер ужо мае ўбудаваны VPN для ананімнага сёрфінгу ў сецыве?

А блакаванне сацсетак — не скажу, што мы наперадзе ўсёй планеты, але блізкія да гэтага. Нашым заканадаўцам варта было б пацікавіцца досведам блакавання Яндэкса, Mail.ru, «Однокласников» і «Вконтакте» той жа Украіны. Гэта было, хутчэй, сімвалічным крокам, бо абысці блакіроўку — задача трох клікаў. Ніякай адказнасці за такі абыход не прадугледжвалася (як, дарэчы, не прадугледжваюць яе і новыя беларускія правілы). А Яндэкс — той увогуле блакаваць без сэнсу, бо ён пастаянна і хаатычна змяняе IP-адрэсы.

Карацей, «кітайская сцяна» да нас прыйшла запозна, а таму ажыццявіць яе немагчыма. Але імкненне ўзмацніць кантроль за інфармацыйнай прасторай — гэта сімптом. Кожную перадвыбарчую кампанію ўлады пачыналі з ціску на СМІ. А значыць — хутка выбары? Хацелася б даведацца, якія.

Працяг тэмы на стар. 4 »

# Масква паспрабуе ўмяшацца ў беларускія выбары

**У панядзелак, 2 красавіка, Лукашэнка тэлеграмай павіншаваў Уладзіміра Пуціна з «днём яднання народаў Беларусі і Расіі».**

Увіншавальнай тэлеграме кіраўнік Беларусі адзначыў, што супрацоўніцтва дзвюх краін мае «велізарны патэнцыял». «Каб рэалізаваць яго ў поўнай меры, мы павінны няўхільна выконваць дамоўленасці», — дадаў Лукашэнка важнае «але».

Ці магчымая рэанімацыя праекта беларуска-расійскага саюзнага сяброўства? «Салідарнасць» пацікавілася пра гэта ў палітычнага аналітыка, дырэктара Цэнтра стратэгічных і знешнепалітычных даследаванняў Арсенія Сівіцкага.

— Відавочна, што гэтая рыторыка даўно не адпавядае рэальным працэсам, — адзначыў ён. — Ёсць толькі інерцыя курсу, які Лукашэнка пачаў праводзіць у дачыненні да Расіі ў канцы 1990-х гадоў. Але цяпер можна сказаць, што ідэя яднання пацярпела крах.

На думку суразмоўцы, гэта звязана з тым курсам, які праводзіць Уладзімір Пуцін.

— Ён практычна адразу ж адкінуў ідэю раўнапраўнага партнёрства, і, па сутнасці, прапанаваў варыянт інкарпарацыі Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі.

Эксперт звяртае ўвагу, што Беларусь вельмі важная для Крамля, бо «яна з'яўляецца своеасаблівым буферам і найкароткім шляхам для пракладкі калідора на Калінінград»:

— Менавіта таму ў Крамлі не могуць дапусціць, каб Беларусь выйшла з-пад кантролю. Ідэальным варыянтам для Расіі было б ператварэнне Беларусі ў цалкам паслухмянага сатэліта, які ў цэлым выконвае ўсё, чаго хочацца ў Крамлі.

Таму, па яго словах, Расія ўжо сёння разглядае сцэнары так званага «транзіту ўлады» ў Беларусі. Асабліва на фоне парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў 2019–2020 гадоў.

— Масква будзе спрабаваць умешвацца і ў гэтыя працэсы, спрабуючы прывесці да ўлады чалавека, які зможа цалкам забяспечыць яе стратэгічныя інтарэсы ў Беларусі ў постлукашэнкаўскую эпоху, — лічыць Сівіцкі.

**«Салідарнасць»**

# «Закрытая справа не азначае незаконнасць арышту»

**Прыкладна з такой фармулёўкай суд Маскоўскага раёна адмовіў у кампенсацыі маральнай шкоды чатыром фігурантам «справы патрыётаў».**

Сяргей Стрыбульскі, Віктар Мароз, Віктар Данілаў і Андрэй Дундукоў прасілі Міністэрства фінансаў кампенсаваць ім маральную шкоду, якую яны атрымалі ў выніку незаконнага затрымання, прыцягнення іх у якасці абвінавачаных, утрымання пад вартай, а таксама прымянення падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах.

У пазове былыя фігуранты «справы патрыётаў» спасылаліся на артыкулы 939 і 968–970 Грамадзянскага кодэксу, якія прадугледжваюць пакрыццё маральнай шкоды за кошт дзяржавы незалежна ад віны таго, хто нанёс шкоду.

Пазоўнікі лічаць, што яны мусяць атрымаць грашовую кампенсацыю, бо той час, які правялі за кратамі, а таксама пасля вызвалення адчувалі маральныя пакуты. Таксама пазоўнікі звязваюць свае маральныя пакуты з пачуццём прыніжэння гонару і годнасці ў выніку дыскрэдытацыі ў дзяржаўных СМІ, з пачуццём прававо неабароненасці, з прымяншэннем іх надзеяў з іх сацыяльнага і прафесійнага статусу і гэтак далей.

Віктар Мароз папрасіў далучыць да матэрыялаў справы копіі дакументаў аб стане здароўя яго самога, жонкі і сына. Яны паказваюць, якім негатыўным чынам утрыманне пад вартай паўплывала на яго здароўе і здароўе яго родных. Суддзя Вольга Гусакова хадайніцтва задаволіла.

Да справы былі далучаныя таксама сертыфікаты і пасведчанні Андрэя Дундунова і Віктара Данілава аб валанцёрстве ў арганізацыі «Чырвоны крыж». А вось наконт далучэння матэрыялаў СМІ, якія дыскрэдытавалі пазоўнікаў, у суддзі было іншае меркаванне. Яна адмовіла ў далучэнні да справы нумару газеты «СБ: Беларусь сегодня» ад 11.04.2017, дзе ўтрымліваецца артыкул «Имя им — легион» і дыск з прапагандысцкім фільмам «Белый легион черных душ» і запісамі тэматычных навінаў з тэлеканалаў «СТВ» і «Беларусь-1». Адмову суддзя матывавала тым, што дадзеныя матэрыялы не маюць дачынення да справы, бо адказнымі за іх з'яўляюцца СМІ, а ў судзе разглядаецца шкода, якую прычынілі праваахоўныя органы.

Падчас спрэчак бакоў прадстаўнік Мінфіна заявіў, што адсутнасць дакумента, які пацвярджаў бы наяўнасць права на кампенсацыю, з'яўляецца падставай для адхілення пазова. Пазіцыю Мінфіна падтрымаў пракурор, які ў сваім выступе зрабіў акцэнт на тое, што пакуль не даказана незаконнасць дзеянняў адпаведных органаў, гутаркі пра грашовую кампенсацыю ісці не можа.

Суд Маскоўскага раёна ў задавальненні пазова адмовіў. Заяўнікі маюць намер абскардзіць гэтае рашэнне.

**Паводле spring96.org**

# Як я адсвяткавала 25 сакавіка

Ніна БАГІНСКАЯ

**Да нас у рэдакцыю завітала спадарыня Аўгіння Ніна Багінская і прынесла нататкі аб сваіх прыгодах на сёлетні Дзень Волі. Прыводзім іх амаль без зменаў.**

У 10.20 я выйшла з дома, каб прыняць удзел у святкаванні 100 угодкаў БНР. Мяне ўжо пільнавалі людзі ў цывільным, схапілі за руку. Запыталі: «Женщина, вы куда? С вами хочет поговорить следователь из Первомайского отдела милиции, проедемте с нами». Я адмовілася, але мяне ўпіхнулі ў машыну і павезлі.

З 10.45 да 19.15 мяне ўтрымлівалі ў Першамайскім РАУС, у пакоі крымінальнага вышуку (на дзвярах напісана «Уголовный розыск»). На маё пытанне, па якой прычыне я затрыманая, мне адказалі, што са мной хоча паразмаўляць следчы. Патрабавалі пашпарт — я паказала. Спыталі, куды я ішла, — адказала, што на свята БНР, спачатку на 11.00 у ТБМ на агульнанацыянальную дыктоўку, потым на святочныя гарадскія мерапрыемствы. Калі адпусціце? Адказалі, што ў 13.00, чакайце, з вамі будзе размаўляць следчы. Пыталіся, з кім я жыву, і спрабавалі высветліць, ці дзеці, унукі, праўнук жывуць разам са мной у кватэры, ці ў іншых месцах. Я абурылася, сказала, што не пільную і не даношу, дзеці-ўнукі дарослыя, жывуць дзе хочуць, я за імі не сачу; а вы за мной, старой, сачылі, напэўна, зранку, каб мяне не пусціць на нацыянальнае свята.

У 13.00 зноў патрабую выпусціць. У кабінет заходзіць чалавек у цывільным, кажа:

— Вы, Багинская, не спешите. Вся площадь оцеплена, митинга нет, а мы вас спасли от штрафа.

— У мяне вашых штрафаў больш за 30 тысяч рублёў, адным больш ці менш — усё роўна! Патрабую выпусціць, бо жадаю наведаць канцэрт! Я не злачынца, і няма чаго ў гэтым кабінеце крымінальнага вышуку мяне трымаць! — адказваю.

— Вы украли машину, — кажуць, пасміхаючыся.

— Вы міліцыянты і заўсёды будзеце мець рацыю, але машыны няма — адпускайце!

— Нет, вы еще украли мобильник в магазине.

— Добра, але мабільніка ў мяне няма — выпускайце!

— Отпустим в 15.00.

У кабінеце задуха. Патрабавала адчыніць акно і дзверы. Хаджу па кабінеце, раблю фізічныя практыкаванні, каб не самлець. У міліцыянтаў абедзенны перапынак, бегаюць з гарбатнікамі — ешці збіраюцца. У кабінет заходзіць нехта ў цывільным, бачыць, як я кручу галавой, рукамі, пытае:

— Может, вызвать машину, отвезти?

— Нет, всё нормально, физические упражнения.

Я дадумваю па аналогіі з 2017 годам, калі міліцыянты Цэнтральнага РАУС выклікалі брыгаду з псіхлякарні і адвезлі мяне ў Навінкі. Гэта была помста, каб я больш не хадзіла з плакатам «Свабоду народу» ля будынка КДБ у падтрымку палітзняволеных па «справе патрыётаў». Дадумваю, што і гэтыя хочуць так зрабіць, бо гэта адзін з іх метадаў уздзеяння на іншадумцаў.

У 15.00 зноў патрабую выпусціць. На канцэрт не паспела, дык есці хачу, абед прайшоў, гэта ўжо фізічны здзек. Дый закон парушаюць — больш за тры гадзіны трымаюць у зняволенні. Адказ: «Мы угощаем вас чаем». І сапраўды, некалькі разоў печыва прапанавалі. Але я адмовілася, бо ежу з рук «агентаў», янычараў не ямо. Фізічныя сілы, адчуваю, сыходзяць, пачынаю спяваць: «Чорная зграя топча Айчыну...» Потым чытаю верш Ніла Гілевіча: «Будзьце пракляты вы, каты свабоды,// Вы, што душылі і душыце нас...»

У кабінет заходзіць нехта ў цывільным, кажа:

— Успокойтесь, Багинская, не волнуйтесь, концерт окончился, так-сяк был, слабенький.

Па калідоры сноўдаюць міліцыянты ў цывільным, некаторыя заходзяць у кабінет. Задаю зноў пытанне, калі выпусцяць.

— В 17.00.

— Дык што ж следчы са мной не размаўляе, чаго трымаеце?

— Ждём приказа, звоним начальнику, а он не отвечает — телефон занят.

Я дадумваю: «Народ хапаюць, разганяюць, усе пры справах, не да цябе, Багінская».

Нехта з міліцыянтаў кажа:

— Вот вы, Багинская, ходите на митинги, а начальники деньги за это получают... Вот как мы без России можем, без нефти?

— Я свабодны чалавек, зла не раблю, куды хачу, туды хаджу. А наконт нафты — трэба альтэрнатыўныя крыніцы энергіі выкарыстоўваць.

Так між міліцыянтамі ўзнікла спрэчка, ці рэнтабельныя ветракі і гідрастанцыі. Нехта папрасіў, каб я што пра ВКЛ, ліцьвінаў расказала або паспявала зноў.

— Я не гісторык, каб лекцыі тут вам чытаць, чытайце Саганові ча, Ткачова... і песні я спяваю не для вас, а каб не самлець, бо мне тут не весела, млосна.

— Мы вас выпустим в 19.00.

У 19.15 мяне вывелі з кабінета «Уголовный розыск» Першамайскага РАУС. Я прыехала дахаты, потым паехала на плошчу да Чырвонага касцёла і адсвяткавала 100-годдзе БНР ды Вербніцу, што сёлета прыпала на 25 сакавіка, пад бел-чырвона-белым Сцягам. Стаяла, пакуль працаваў касцёл. Некаторыя людзі, маладыя і сталага ўзросту, падыходзілі, віталіся, рабілі фота на памяць, віншавалі са святам.

А 22.00 з'ехала дахаты, каб сустрэць новы дзень.

# Колькі каштуе хвіліна мірнага сходу?

**Вечарам 3 красавіка суд Маскоўскага раёна аштрафаваў актывіста Алеся Таўстыку на 15 базавых велічыняў за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.**

Яшчэ над дваімі затрыманымі — Вячаславам Касінераваым і Пятром Маркелавым — суды адбыліся ў другой палове дня 4 красавіка.

2 красавіка на плошчы Незалежнасці зладзілі пікет за дэкрыміналізацыю марыхуаны і іншых кантраляваных рэчываў. Актывісты прымеркавалі акцыю да пачатку вясновай сесіі Палаты прадстаўнікоў і накіравалі туды зварот, дзе нагадалі пра запатрабаванасць рэформы артыкула 328 Крымінальнага кодэксу.

Пікет працягваўся літаральна хвіліну, на працягу якой актывісты зрабілі фотаздымак з картачкамі «Дэкрыміналізацыя 328» насупраць Дома ўрада і разышліся. Падчас акцыі ніхто затрыманы не быў, усе затрыманні адбыліся на наступны дзень.

З кастрычніка 2017 года «Legalize Belarus» праводзіць грамадскую кампанію за рэфармаванне артыкула 328 Крымінальнага кодэкса (незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў), якая прадугледжвае працяглыя тэрміны зняволення за захоўванне і распаўсюд нават драбнюткіх дозаў наркотыкаў.

**Паводле naviny.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Брэжнеўшчына» XXI стагоддзя

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Крызіс не звонку, крызіс у галовах», — прыкладна так казаў прафесар Прэабражэнскі. Галоўны складнік нашага крызісу — крызіс ідэяў. Нечым гэта нагадвае часы позняга Брэжнева — нічога новага, нават заклінанні старыя.**

У некаторых выпадках гэта нават няблага. Напрыклад, урад не здолеў вызначыцца, за што павінны плаціць «дармаеды». Пастанова, якую даручалася выпрацаваць да 1 красавіка, на вечар 3 красавіка так і не была апублікаваная і падпісаная. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе Савета Міністраў і дадалі: «Як толькі яна будзе падпісана, адразу з'явіцца на нашым сайце».

Нагадаем, што Лукашэнка падпісаў дэкрэт №1, які прыйшоў на змену сумнавядомаму дэкрэту №3, яшчэ ў студзені 2018 года. Тады ж ён даручыў чыноўнікам да 1 красавіка прыдумаць сістэму, па якой «лайдакі» будуць цалкам аплачваць некаторыя паслугі, якія субсідуе дзяржава.

Вынік, як і чакалася, нулявы. Пэўна, таму, што «сацыяльная дзяржава» насамрэч мала што субсідуе. Бясплатная медыцына і адукацыя закладзеныя ў Канстытуцыі, ЖКГ само не ведае, якія тарыфы «стопрацэнтныя», а плаціць за войска, міліцыю і ўводзіць дыферэнцаваныя квіткі на транспарт — глупства. А выдумаць нешта крэатыўнае — на гэта не «брэжнеўскія» мазгі патрэбныя.

Напоўніцу крызіс у галовах выявіўся і на рэспубліканскім семінары-нарадзе аб развіцці вёскі і павышэнні эфектыўнасці аграрнай галіны. Аляксандр Рыгоравіч, які заклапаціўся зімой, якая зацягнулася, і надыходзячай пасяўной. Але ён не знайшоў нічога навейшага за свае аргументы дзесяцігадовай даўніны, і абрынуўся на пасярэднікаў. «Нахабныя сталі да крайняй ступені. Завозяць ўсё, што папала, — тое, што робіцца ў краіне і за што выплачаныя падаткі. Сваё ляжыць, гніе дзесьці, а мы ўсё вязем з-за мяжы», — звярнуў увагу Лукашэнка. «З пасярэднікамі трэба самым жорсткім чынам — не факты мне пералічваць, а зрабіць так, каб іх наогул не было. У краіне ўжо закупляюць праз пасрэднікаў. Толькі прамыя закупкі ад вытворцы!» — запатрабаваў ён.

Калі кіраўнік краіны кажа «ад сябе», як у гэтым выпадку, заўсёды атрымліваецца цікавы і сапраўдны малюнак нашага жыцця. Напрыклад, фраза «што робіцца ў краіне і за што выплачаныя падаткі». Зараз мы ведаем, што ён ведае, што нашы падаткі, насамрэч, ідуць не на сацыяльныя патрэбы грамадства, як тое належыць. А на падтрымку дзяржпрадпрыемстваў. Прычым, прадпрыемстваў, якія, па ідэі, павінны зарабляць, а не стаяць з працягнутай рукой у бок бюджэту.

Другая фраза: «сваё ляжыць, гніе дзесьці». Яшчэ ніхто так трапна не ахарактарызаваў адначасова якасць нашай прадукцыі, яе кошт і ўмовы захоўвання. Калі яно «ляжыць», значыць, задорага каштуе. Калі яно «гніе», то такая ў яго якасць. А калі яно «дзесьці» — значыць, такое яно нікому не трэба.

Ну і трэцяе: патрабаванне «жорстка разабрацца» з пасярэднікамі. Цікава, ці разумее Аляксандр Рыгоравіч, колькі будзе каштаваць адно толькі наладжванне наўпроставых кантактаў з вытворцамі? Увесь свет гандлюе не з заводамі, а з «пасярэднікамі». Дый, па вялікім рахунку, любы аддзел продажаў — гэта ўжо пасярэднік. Склад — пасярэднік. Перавозчык — пасярэднік. Калі ўскласці ўсе функцыі, якія бяруць на сябе пасярэднікі, непасрэдна на прадпрыемства і зрабіць, каб тых «наогул не было», — такая дадатковая фінансавая і арганізацыйная нагрузка ў сучасных нашых умовах прывядзе нават не да хуткага — да імгненнага — банкруцтва «флагманаў беларускай прамысловасці». Не кажучы ўжо пра звычайных «нефлагманаў».

І — як гэта: мы развіваем лагістычныя комплексы, ствараем лагістычныя хабы, і адначасова — з пасярэднікамі змагаемся? Пчолы супраць мёду?

А яшчэ Аляксандр Рыгоравіч звыкла папярэдзіў чыноўнікаў, як кажуць у Адэсе, «за карупцыю». «Лiтасці вы не чакайце! — звыкла разносіў падначаленых кіраўнік краіны. — Ужо людзі стогнуць у некаторых раёнах. Справы няма, вынікаў няма, а ён пры людзях, пачынаючы ад лазні і заканчваючы ўласным і для дзяцей, і для сябе жыллём, указанні раздае», — сказаў Лукашэнка.

«Глядзіце, мужыкі. Лепш жабраком, але на свабодзе. Чым багатым там (у месцах пазбаўлення волі). Усё на вачах у людзей», — папярэдзіў Лукашэнка.

Так, усё на вачах у людзей. У тым ліку і тое, што «людзі стогнуць у некаторых раёнах», а Аляксандр Рыгоравіч, ведаючы пра гэта, замест таго, каб прыняць адпаведныя і рашучыя захады, страсае паветра прамовамі.

Пры гэтым лідар дзяржавы пакуль не асэнсоўвае, што ў нашых чыноўнікаў адваротная логіка, да якой ён прывучыў іх сам. Па іх логіцы, лепей нахапаць паболей, каб потым «сплаціць шкоду дзяржаве» і вызваліцца ад адказнасці, не парыцца на нарах. Альбо, забяспечыўшы бязбеднае існавання сям'і і дзецям, адседзець траціну тэрміну, а потым зноў трапіць у той жа «кадравы рэестр кіраўніка дзяржавы». Бо было багата прыкладаў, калі «карупцыянеры» самім Лукашэнкам пасля турмы прызначаліся дырэктарамі прадпрыемстваў і кіраўнікамі саўгасаў...

І яшчэ адна навіна з шэрагу крызісу ідэяў. Ужо ў гэтым ці наступным годзе нам абяцалі поўную аплату ЖКГ. Але, як казалася вышэй, поўных тарыфаў у абсалютных адзінках (грошах) ніхто не ведае. Таму з насельніцтва будуць працягваць стрыгчы поўсць.

Пераход на стопрацэнтную камуналку нам пакуль не пагражае, паведаміў віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін на адкрыцці дваццатай спецыялізаванай выставы «Вада і цяпло». На пытанне, калі будзем плаціць за цеплавую энергію 100%, Калінін выказаў здагадку, што «гэта адбудзецца паралельна з ростам даходаў насельніцтва». «Можа быць, гэта будзе 2025 год, можа пазней», — сказаў віцэ-прэм'ер і дадаў, што пакуль насельніцтва кампенсуе толькі 18–20% кошту цеплавой энергіі.

Але зараз, дзякуючы словам Калініна, мы ведаем, калі пачнецца рост дабрабыту насельніцтва і яго даходаў. Можа быць, 2025 год, можа пазней. І галоўнае ў гэтым, каб да 2025 года ў Беларусі яшчэ захавалася тое самае насельніцтва, у якога будзе расці дабрабыт. Бо такімі тэмпамі развіцця — а дакладней, неразвіцця, стагнацыі і крызісу, — за сем гадоў тыя грамадзяне, пра якіх так дбаюць чыноўнікі, могуць альбо перамерці, альбо (што больш верагодна) збегчы з гэтай краіны. Падалей ад такога дбайнага «клопату».

**Кіраўнік дзяржавы не асэнсоўвае, што ў нашых чыноўнікаў адваротная логіка, да якой ён прывучыў іх сам. Лепей нахапаць паболей, каб потым «сплаціць шкоду дзяржаве» і вызваліцца ад адказнасці, не парыцца на нарах. Альбо адседзець траціну тэрміну, а потым зноў трапіць у той жа «кадравы рэестр кіраўніка дзяржавы»**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Насця Ванеева

**11-гадовая цымбалістка са Смаргоні прачнулася знакамітасцю пасля таго, як навучыла Максіма Галкіна называць Беларусь Беларуссю, а не «Белоруссией».**



Расійскі Першы канал паказаў яе выступ у адным з тэлешоў. Вядучы Максім Галкін прадставіў Насцю як музыку з «Белоруссии», але тая запярэчыла: «Правільна казаць — "з Беларусі"».

Ролік са сцэнай спрэчкі стаў вірусным, імгненна разляцеўся па сацсетках і нават быў паказаны па БТ. Сама дзяўчына такой вядомасці не вельмі радая. «Мне не вельмі падабаецца гэты шум. Падабаецца, што пішуць пра тое, як я граю. А вось наконт таго, што я яго папраўляла, — не вельмі. Я не хацела рабіць на гэтым акцэнт. Хацела толькі, каб мяне правільна аб'явілі. Я тут нарадзілася, гэта мая Радзіма, і яе павінны правільна называць», — сказала Насця «Радыё Свабода».

Між іншым, Галкіна пра «Беларусь» яна папярэджвала яшчэ падчас рэпетыцыяў. Аднак чамусьці Першы канал вырашыў пакінуць гэты момант у сваім эфіры.

## Сергій Лепін

**Старшыня Сінадальнага інфармацыйнага аддзела Беларускай Праваслаўнай Царквы атрымаў дозу крытыкі за выступ на «Свяце Незалежнасці» 25 сакавіка.**



Цкаваць айца Сергія Лепіна пачаў прарасійскі шавіністычны сайт «Тэлескоп». Цікава, што крытыка святара грунтуецца на яго перапісцы ў сацсетках з расійскім шавіністычным публіцыстам Кірылам Авер'янавым-Мінскім, якога, па яго словах, пазбавілі беларускага грамадзянства і які з'яўляецца адным з аўтараў расійскага нацысцкага сайта «Спутник и Погром», заблакаванага ў Беларусі.

Айцу Сергію ў прыватнасці, паставілі ў віну ідэалагічнае клішэ пра тэлеграму БНР нямецкаму кайзеру (тады як менавіта на карысць Германіі Савецкая Расія адмовілася ад беларускіх зямель па Брэсцкаму міру 3 сакавіка 1918 года), і ўжыванне ім лозунга «Жыве Беларусь!», які ў тым ліку выкарыстоўвалі беларускія калабаранты ў Другую сусветную вайну.

Варта зазначыць, што Лепін не змаўчаў. Прэс-сакратар БПЦ справядліва заўважыў, што «Жыве Беларусь!» нічым не горш за лозунг «Слава Расіі!», што ён згадваецца яшчэ ў вершы класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы ў 1906 годзе, а таксама ў загалоўку дзяржаўнай «Народнай газеты». Больш за тое, адзначыў Лепін, расійскія калабаранты ў гады Другой сусветнай вайны выкарыстоўвалі сучасны расійскі дзяржаўны сцяг-трыкалор. «І георгіеўскую стужачку, і шмат чаго яшчэ. Дый, напэўна яны і споднее апраналі — што нам цяпер без майткоў хадзіць?» — пытаецца святар.

## Уле-Эйнар Б'ёрндален

**Муж Дар'і Домрачавай, нарвежскі біятланіст Уле-Эйнар Б'ёрндален заявіў пра заканчэнне сваёй спартыўнай кар'еры.**



«Мінулы сезон стаў апошнім у маёй кар'еры, хоць я не супраць быў бы паспаборнічаць яшчэ пару гадоў», — заявіў Б'ёрндален. Ён распавёў, што ў яго пачаліся праблемы з сэрцам: у мінулым сезоне яго непакоіла фібрыляцыя перадсэрдзяў. Праблемы са здароўем і жаданне надаваць больш часу сям'і сталі прычынамі завяршэння кар'еры.

Жонка Б'ёрндалена Дар'я Домрачава напісала ў Інстаграм цёплыя і кранальныя словы пра свайго мужа і бацьку іх дачкі Ксеніі. «Кароль біятлона, кароль і ў жыцці. Ганаруся гэтым Мужчынам. Мужчына, які разбіў межы, мужчына, які разбіў стэрэатыпы. Яго спартыўная кар'ера — прыклад для мільёнаў, як змагацца і імкнуцца да мэты. Кар'ера, якая будзе натхняць яшчэ мноства пакаленняў. Яго паводзіны па жыцці — прыклад для ўсіх, як паважаць іншых. Як захоўваць твар перад цяжкасцямі. Як быць вышэй падводных гульняў. Як быць ЧАЛАВЕКАМ», — напісала Домрачава.

# Прэзідэнцкія выбары: як гэта будзе

Мікалай ДЗЯДОК

**Адышлі ў нябыт і імгненна забыліся выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў, якія некаторыя беларускія палітолагі ўжо назвалі рэпетыцыяй выбараў прэзідэнцкіх. Сапраўды, пры поўнай дэкларатыўнасці органаў мясцовага самакіравання, кволым удзеле апазіцыі ў передвыбарчай кампаніі, улада не дала «пятай калоне» ніводнага шанцу — нават у параўнанні з парламенцкімі выбарамі, калі ў Палату прадстаўнікоў былі дапушчаныя дзве апазіцыянеркі.**



Аднак ступень мабілізацыі на гэтыя недавыбары як сілавых структур, так і прапагандысцкага рэсурсу (знаёмы ўжо ціск на студэнтаў і бюджэтнікаў дапоўніўся агітацыйнымі грузавікамі, што ездзілі па Мінску і заклікалі людзей прыходзіць на ўчасткі) паказвае, што для ўлады гэтая «проба пяра» была ўсур'ёз.

Можна быць упэўненым: у нетрах дзяржапарату ўжо зараз плануецца стратэгія правядзення прэзідэнцкіх выбараў, якія ў Беларусі, як заўжды, будуць сапраўднай палітычна-паліцэйскай спецаперацыяй.

Згодна з заканадаўствам, адбыцца яны павінны не пазней за 30 жніўня 2020 года — то бок праз год і шэсць месяцаў. Аднак, улічваючы шэраг мясцовых асаблівасцяў, у тым ліку магчымы перанос на больш ранні тэрмін, можна прыкінуць, што да пачатку сезоннага ажыўлення ў беларускай палітыцы засталося менш чым паўгода.

Паспрабуем уявіць, якой будзе гэтая перадвыбарчая кампанія, самі выбары і (што найбольш характэрна для Беларусі) першыя дні пасля іх.

## Кандыдаты

Пра галоўнага кандыдата казаць няма чаго. Ён будзе балатавацца і пераможа — калі не па галасах, дык па выніках ЦВК.

Ад апазіцыі варта чакаць, як звычайна, партыйных ці грамадскіх лідараў, што балатаваліся і раней. Новыя твары магчымыя, але малаверагодныя: такая спецыфіка беларускай традыцыйнай апазіцыі. Як заўжды, будуць 1–2 марыянеткавыя фігуры: Гайдукевіч, Улаховіч і да іх падобныя. За імі — роля статыстаў і некалькі сімвалічных працэнтаў галасоў.

Інтрыгу складае ўдзел у выбарах Міколы Статкевіча.Можна не сумнявацца, што балатавацца ён будзе — калі, канешне, будзе мець такую магчымасць. Інтрыга палягае ў тым, які шлях абярэ ўлада, каб не дазволіць гэтага балатавання. Судзімасць апазіцыйнага лідара гасне ў жніўні 2020-га — і толькі пасля гэтага ён атрымлівае магчымасць высоўваць сваю кандыдатуру; а выбары, хутчэй за ўсе, будуць праведзеныя раней. Такім чынам, небяспечнага суперніка можна будзе выдаліць «элегантна» і без усялякіх брутальных фокусаў: арыштаў, пасадак і новых крымінальных спраў.

Амаль кожныя прэзідэнцкія выбары пачынаюцца з разваг наконт магчымага з'яўлення «кандыдата ад Расіі», які мог бы, карыстаючыся галоснай ці негалоснай падтрымкай Пуціна, ФСБ і Узброеных сіл РФ, пасунуць Лукашэнку без асаблівага гвалту. Прынамсі, у 2006 і 2010 гадах такую верагоднасць абмяркоўвалі сур'ёзна. Што да бліжэйшай палітычнай кампаніі, думаецца, калі б Расія і хацела раскруціць свайго чалавека, то пачала б яго піяр, падтрымку і ўсебаковае прасоўванне ўжо зараз. Хаця б для дасягнення пэўнага ўзроўню пазнавальнасці, бо штурхаць у прэзідэнты чалавека, якога ніхто не ведае, можна хіба толькі ў аўральнай сітуацыі — як гэта было ў Крыме, дзе за адсутнасцю іншых кандыдатур у кіраўнікі паўвострава ФСБ прапхнула былога крымінальнага аўтарытэта «Гобліна» (Сяргея Аксёнава).

## Палітычны рэжым і рыторыка

З высокай ступенню верагоднасці можна выказаць здагадку: лібералізацыі не будзе. Лукашэнка двойчы адпускаў гайкі: у 2009–2010 гадах — гэта скончылася бунтам на Плошчы, і ў 2015–2017 гадах — гэта скончылася раней не бачаным пратэстам «дармаедаў», які прымусіў вывесці на вуліцы новыя машыны-монстры для разгону дэманстрацый і прэвентыўна перасаджаць ледзь не ўсіх грамадскіх актывістаў краіны.

Верагодна, урок Лукашэнкам засвоены, і больш такіх «памылак» зроблена не будзе. Гульня ў лібералізацыю небяспечная для ўлады, і чым больш складаная эканамічная сітуацыя, тым верагодней, што справы могуць выйсці з-пад кантролю. Аднак пэўны мінімум для дзеяння апазіцыі ўсе ж прадставяць: магчымасць ладзіць пікеты і прамаўляць вычытаныя дзяржаўнымі ідэолагамі спічы на тэлебачанні. Звычайны вузенькі загон для палітычных апанентаў будзе пашыраны, але нязначна.

Дзяржаўная рыторыка і праўладны дыскурс, хутчэй за ўсе, не зменяцца. Для гэтага ў прапагандыстаў і ідэолагаў няма ані фантазіі, ані палітычнай нагоды. Нас зноў чакаюць пудзіла «каквукраіне», прывід «Белага Легіёну», анархісты з тратылам і ІДІЛаўцы з Японіі. Аргументамі «за» будуць стабільнасць і абяцанне «ўсім паніцот». Іншыя абяцанні Лукашэнка наўрад ці рызыкне даваць, улічваючы іх заведамую невыканальнасць, — хутчэй ён і яго спічрайтары будуць напірац на «давайце захаваем што ёсць», і «ў суседзяў яшчэ горш».

З вялікай верагоднасцю можна прадказаць, што ў перыяд да выбараў улада ўстрымаецца ад прыняцця непапулярных законаў, якія б білі па кішэні грамадзян, нават калі схуднелы бюджэт і ЗВР будуць гэтага патрабаваць. Як заўжды, сістэме патрэбная хаця б мінімальная лаяльнасць: і, каб не адбылося пратэстаў, Лукашэнка скарыстае не толькі бізун, але і пернік.

Не выключана правядзенне шостага Усебеларускага народнага сходу. Праўда, майнераў, айцішнікаў і блогераў побач з «начосамі» і старшынямі калгасаў на ім чакаць не варта: сюрпрызы мусяць быць выключаныя — не той выпадак, каб эксперыментаваць з «голасам народу».

## Рэпрэсіі

Як заўжды, перад выбарамі нас чакае хваля прэсінгу на грамадскіх актывістаў, апазіцыю і ўсіх, хто можа арганізаваць хоць нейкі пратэст (не кажучы ўжо пра супрацьў). Трэба меркаваць, што ў чарговы раз будуць улічаныя ўрокі Майдана, а таксама апошніх «дармаедскіх пратэстаў». Гэтым разам дзяржава не будзе празмерна шчыраваць на ніве зачысткі палітычных партый і рухаў — для ўплыву на іх хапае прававых рычагоў і адміністрацыйнага рэсурсу. Замест гэтага, верагодна, сілавікі (асабліва ГУБАЗ і КДБ) сканцэнтруюцца найперш на:

а) моладзевых субкультурах рознай ступені палітызаванасці: футбольныя фанаты, антыфашысты, рэканструктары, неаязычнікі, панк-хардкор супольнасць;

б) на незалежных СМІ і блогерах — іх аўдыторыя ўжо блізкая да аўдыторыі дзяржаўных тэлеканалаў, калі не перарасла яе, а гэта — простае і небяспечнае парушэнне манаполіі дзяржавы на інфармацыю;

в) анархістаў, як на самую непадкантрольную і адну з самых арганізаваных антыўрадавых груп.

Працягнуцца і пачасцяцца блакіроўкі «экстрэмісцкіх» сайтаў і паблікаў у сацсетках.

## Рэакцыя Захаду

Пакуль няма ніякіх падстаў лічыць, што абвешчаны курс на адноснае пацяпленне з Лукашэнкам ЗША і краіны ЕС зменяць на нешта іншае. Гэта думка трывіяльная і не мной першы раз выказаная, але галоўны вораг Захаду зараз — Расія. І, адпаведна, Лукашэнка ўжо не успрымаецца як апошні дыктатар Еўропы. Калі ЕС сцярпела брутальны хапун 25 сакавіка 2017-га, ігнаруе наяўнасць у Беларусі палітвязняў, то чарговыя — якія па ліку? — недэмакратычныя выбары сцерпіць тым больш. Будуць рэзалюцыі, «глыбокая заклапочанасць» — але не больш за тое. Еўропа па-ранейшаму бачыць Лукашэнку як патэнцыйнага саюзніка ў барацьбе з Расіяй, і гэтае бачанне ён будзе выкарыстоўваць для захоўвання асабістай улады і надалей.

**З вялікай верагоднасцю можна прадказаць, што ў перыяд да выбараў улада ўстрымаецца ад прыняцця непапулярных законаў, якія б білі па кішэні грамадзян, нават калі схуднелы бюджэт і ЗВР будуць гэтага патрабаваць. Як заўжды, сістэме патрэбная хаця б мінімальная лаяльнасць**

## Умяшанне Расіі

«Расійская карта» з 2014 года з'ўляецца ледзь не ключавой інтрыгай беларускіх выбараў. Усе чакаюць з'яўлення прарасійскага кандыдата альбо перавароту праз лаяльных ФСБ сілавікоў, альбо агрэсіі па крымскім сцэнары. Аднак, на мой погляд, апошняе пакуль малаверагодна. Прычына простая: эканоміка. Нягледзячы на неадназовыя дэманстратыўныя «сыходы» з Сірыі і нібыта «зліў» Данбаса, расійскія войскі — і ў немалой колькасці, — працягваюць заставацца і там, і там. Больш за тое, перыядычна з'яўляюцца паведамленні пра іх удзел у вайсковых аперацыях альбо падтрымцы дзеючай улады ці ў Лівіі, ці ў Судане. І гэта толькі месцы, дзе вядуцца больш-менш актыўныя дзеянні, не лічачы вайсковых баз у розных «гарачых кропках». Поўнамаштабную вайсковую аперацыю, нават гібрыдную, супраць Беларусі Крэмль наўрад ці пацягне — для гэтага бракуе як вайсковай сілы, так і фінансаў, не кажучы ўжо пра тое, што ў выпадку такога наступу паслякрымскія санкцыі пададуцца кветачкамі. Таму Пуцін, хутчэй за ўсе, працягне ранейшую палітыку па ўсталяванні больш шчыльнага кантролю над Беларуссю праз камбінацыю палітычных, эканамічных і дыпламатычных метадаў.

Адносна імавернай выглядае магчымая спроба палацавага перавароту — праз сілавікоў, як любяць у Маскве. Верагоднасць гэтага сцэнару ацаніць цяжка, таму і спекуляваць не варта — сілавыя структуры звышзакрытыя, і мы сапраўды не ведаем, колькі маскоўскіх агентаў жыве і дзейнічае ў КДБ, МУС ды ААЦ і наколькі будуць лаяльныя Віктару Лукашэнку людзі, якіх ён расставіў на пасады кіраўнікоў. Можна з упэўненасцю сказаць толькі адно: пра такі сцэнар кіраўнік краіны ведае, і прымае захады для яго ліквідацыі. Але наколькі яны маштабныя і трывалыя, сказаць немагчыма.

## А раптам?

Кожны з гэтых прагнозных пунктаў, канешне, варта дапоўніць умовай: «...калі не адбудзецца нешта надзвычайнага». Бо ў кантраляванасць і прадказальнасць сучаснага свету, надзвычай складанага і мазаічнага, верыць хіба што канспіролагі. Нечаканыя фактары занадта часта ўрываюцца ў сусветную палітыку, каб нехта мог са стоадсоткавай верагоднасцю сказаць: праз год будзе так і так.

Гэтаксама і з беларускімі выбарамі: умяшацца ў іх вынік могуць Трамп са сваімі інтарэсамі, Пуцін са сваімі войскамі, ЕС са сваімі санкцыямі... Але для ўсіх нас, бадай, было б лепш, калі ўмяшанне гэтае ажыццявілі не чарговыя «сильные мира сего» — а сам беларускі народ, з уласнай палітычнай воляй і ўласнымі інтарэсамі.

# Усходні вектар дэмаграфічнага крызісу

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Уплывы Польшчы з аднаго боку, а з другога — Расіі падчас гістарычных падзелаў тэрыторыі нашай краіны не маглі не прывесці да наяўнасці пэўных сацыяльных адрозненняў паміж заходнімі і ўсходнімі абласцямі Беларусі. З цягам часу адрозненні паступова нівеляваліся. Аднак, калі зірнуць на развіццё дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне, то і цяпер кідаюцца ў вочы відавочныя рэгіянальныя дыспрапорцыі.**

## Заходнія рэгіёны — крыніца прыросту насельніцтва

Складаная дэмаграфічная сітуацыя — даўно не навіна для Беларусі. У апошні раз натуральны прырост насельніцтва ў нас адзначаўся ў далёкім 1992 годзе. Аднак сумная дэмаграфічная абстаноўка характэрная не для ўсіх рэгіёнаў Беларусі. Напрыклад, у сталіцы з 2006 года няўхільна адзначаецца натуральны прырост насельніцтва. А з 2013-га рэгіёнам з устойлівым натуральным прыростам насельніцтва стала яшчэ і Брэсцкая вобласць. Калі натуральны прырост беларускай сталіцы забяспечваецца самым нізкім у краіне паказчыкам смяротнасці, дык павелічэнне колькасці жыхароў Брэстчыны абумоўлена самым высокім у краіне паказчыкам нараджальнасці — 13,5 народжаных на 1000 насельніцтва.

У 2016 годзе на другое месца паводле паказчыку нараджальнасці пасля Брэстчыны выйшла Гродзенская вобласць, дзе за два апошнія гады нараджальнасць вырасла на 5% і склала 13,2 народжаных на 1000 насельніцтва. Калі тэндэнцыя працягнецца, паўночна-заходні рэгіён Беларусі таксама стане крыніцай прыросту насельніцтва нашай краіны.

Паказчык нараджальнасці цесна звязаны з колькасцю штучных перапыненняў цяжарнасці. Па гэтым паказчыку таксама прасочваецца выразная геаграфічная заканамернасць.

Калі ў заходніх абласцях на 100 родаў у 2016 годзе прыпадала да 20 абортаў, то ў Гомельскай і Віцебскай — больш за 30.

На першы погляд можа здацца, што розніца ў колькасці абортаў звязаная з сацыяльнымі або рэлігійнымі адрозненнямі. Аднак вывучэнне колькасці абортаў у гістарычнай рэтраспектыве паказвае, што яшчэ 10 гадоў таму лідарам па колькасці штучных перапыненняў цяжарнасці была менавіта Брэсцкая вобласць. Усходнія вобласці выйшлі ў лідары па колькасці абортаў толькі апошнія 7–8 гадоў. Гэта дазваляе выказаць здагадку, што цяперашнія дыспрапорцыі выкліканы знешнімі прычынамі, якія ўзніклі ў апошнія час.

## Ранні шлюб — не прычына разводу

З канца XX стагоддзя ў Беларусі назіраецца паступовае павелічэнне сярэдняга ўзросту ўступлення ў першы шлюб. За апошнія дваццаць гадоў гэты паказчык павялічыўся на тры гады як для мужчын, так і для жанчын. Аднак і тут назіраюцца прыкметныя адрозненні паміж заходнімі і ўсходнімі абласцямі Беларусі.

Жыхары заходніх рэгіёнаў жэняцца амаль на год раней за сваіх суайчыннікаў з усходніх абласцей. Самыя раннія першыя шлюбы заключаюцца ў Брэсцкай вобласці. Мясцовыя дзяўчаты ўпершыню выходзяць замуж у сярэднім у 24,7 года, а хлопцы жэняцца ў 27 гадоў. Самыя познія першыя шлюбы заключаюцца ў Мінску. Сярэдні ўзрост нявесты тут складае 26,7 года, а жаніха — 28,4 года.

Прыемна, што ў апошнія гады колькасць разводаў у Беларусі паступова скарачаецца. Аднак заключэнне пазнейшых шлюбаў зусім не азначае меншую верагоднасць разводу.

З *малюнка 3* відаць, што ў заходніх абласцях, дзе маладыя людзі заключаюць шлюбы ў больш раннім узросце, колькасць разводаў у разліку на 1000 шлюбаў прыкметна меншая. І такая сітуацыя назіраецца ўжо не адзін год. Найбольш шчасныя шлюбы ў Гродзенскай вобласці, дзе ў 2016 годзе на 1000 шлюбаў прыпадала 452 разводы. Самы высокі працэнт шлюбаў, што распадаюцца, у 2016 годзе быў у Віцебскай вобласці, дзе на 1000 заключаных шлюбаў прыпала 558 разводаў.

Варта таксама адзначыць, што колькасць разводаў у разліку на 1000 шлюбаў у 2016 годзе рэзка ўзрасла па ўсёй Беларусі. Калі ў 2015 годзе гэты паказчык складаў 402 на 1000 шлюбаў, дык у 2016 годзе — ужо 506. І гэтая сітуацыя выкліканая не колькасцю разводаў, якая працягвае скарачацца, а тым, што імкліва скарацілася колькасць шлюбаў. Так, у 2016 года колькасць зарэгістраваных шлюбаў скарацілася аж на 21,3%.

Верагодней за ўсё, такая сітуацыя звязана з пагаршэннем эканамічнай сітуацыі ў краіне. Бо папярэдні раз аналагічная тэндэнцыя адзначалася ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, калі за дзесяцігоддзе колькасць шлюбаў скарацілася амаль на 40%.

## Узрост маці б'е рэкорды

Пазнейшыя шлюбы і агульнае развіццё медыцыны спрыяюць таму, што жанчыны нараджаюць ва ўсё больш познім узросце. У 2016 годзе статыстычныя дадзеныя ўпершыню ў гісторыі Беларусі зафіксавалі парадзіху, старэйшую за 49 гадоў. Дзіця, якое нарадзілася, для яе стала чацвёртым. Сярэдні ўзрост парадзіхі ў 2016 годзе дасягнуў 28,9 года. І нават па гэтым паказчыку заходнія вобласці крыху адрозніваюцца ад іншых рэгіёнаў Беларусі.

Розніца паміж рэгіёнамі нязначная, тым не менш, адзначым, што менавіта ў заходніх абласцях Беларусі ў 2016 годзе назіраецца самы нізкі сярэдні ўзрост парадзіх — 28,5 года. Самыя ўзроставыя парадзіхі ў сталіцы — 30,2 года.

Калі супаставіць узрост маці пры нараджэнні першага дзіцяці з сярэднім узростам уступлення жанчын у першы шлюб, то можна заўважыць, што ва ўсходніх (Гомельскай і Магілёўскай) абласцях гэтыя паказчыкі амаль супадаюць. Гэта сведчыць аб тым, што многія жанчыны ў гэтых рэгіёнах нараджаюць дзяцей, не знаходзячыся ў зарэгістраваным шлюбе.

Такім чынам, мы можам назіраць цэлы шэраг відавочных сацыяльных дыспрапорцый. Жанчыны ва ўсходніх рэгіёнах пазней уступаюць у шлюб, часцей разводзяцца і робяць аборты, нараджаюць у больш познім узросце і ў канчатковым рахунку забяспечваюць меншую нараджальнасць. Відавочна, што ў гэтых дыспрапорцый павінна быць адна агульная прычына, прычым з'явілася яна адносна нядаўна, паколькі яшчэ 10 гадоў таму такіх выразных рэгіянальных заканамернасцяў не назіралася. У чым жа справа?

##Варты заробак замяняе сямейнае шчасце

У першы раз дэмаграфічныя дыспрапорцыі выявіліся ў першыяд фінансавага крызісу 2011 года, калі ручаінка працоўнай міграцыі ва ўсходнім кірунку ператварылася ў струмень. Рэзкі кантраст ва ўзроўні заробкаў разам з магчымасцю вольнага працаўладкавання на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі прывялі да істотнага ўсплёску працоўнай міграцыі. За мінулую пяцігодку сітуацыя толькі пагоршылася. Калі раней матывацыйным фактарам былі казачныя паводле беларускіх мерак маскоўскія заробкі, дык зараз уладкавацца ў Беларусі на годную працу стала зусім праблематычна.

У выніку імкненне палепшыць матэрыяльны дабрабыт прымусіла многіх беларусаў адсунуць на другі план такія жыццёвыя каштоўнасці, як стварэнне сям'і і нараджэнне нашчадкаў. І зусім не дзіўна, што згубныя дэмаграфічныя тэндэнцыі ярчэй праяўляюцца менавіта ў памежных з Расіяй рэгіёнах. А пацвярджэннем з'яўляецца і той факт, што менавіта ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях падатковымі службамі была адпраўлена найбольшая колькасць «лістоў шчасця» ў суадносінах да колькасці працаздольнага насельніцтва.

Можна і далей не звяртаць увагу на працэсы, якія адбываюцца, задавальняцца тым, што паказчык натуральнага змяншэння насельніцтва паступова скарачаецца. Можна лічыць выяўленыя сацыяльныя дыспрапорцыі нязначнымі. У той жа час цалкам відавочна, што сітуацыя, якая склалася, зусім не выпадковая. Больш за тое, у бліжэйшай перспектыве праблема будзе толькі абвастрацца.

## Ці ёсць рашэнне праблемы?

Замест прыняцця адэкватных мер сацыяльнай падтрымкі дзяржава паспрабавала ўвесці падатак на непрацуючых грамадзян. Ці здольная такая мера выправіць дэмаграфічную сітуацыю? Цалкам відавочна, што ніякім чынам.

У той жа час, чаму б не прадугледзець увядзенне сістэмы абавязковых даплат да заработнай платы для бацькоў, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў. Гэта, з аднаго боку, падыме ўзровень сацыяльнай абароненасці маладых сем'яў, а з другога — створыць эканамічны стымул для працаўладкавання маладых бацькоў унутры краіны.

Вельмі важны аспект сацыяльнай адказнасці бацькі перад сваім дзіцем і сваёй сям'ёй. Таму лагічным рашэннем было б прызначэнне дадзеных выплат толькі для тых бацькоў, якія знаходзяцца ў афіцыйна зарэгістраваным шлюбе з маці дзіцяці.

Сума меркаваных выплат павінна быць досыць вялікая, каб утрымліваць работніка на беларускім прадпрыемстве, але яна не павінна залежаць ад узроўню аплаты працы ў арганізацыі, для таго, каб ствараць роўныя стымулы для ўсіх грамадзян. Лагічна таксама прадугледзець павелічэнне сумы выплат з узростам дзіцяці. Гэта б яшчэ больш узмацніла матывацыю супрацоўніка працягваць працоўную кар'еру ў сябе на радзіме.

*Дадзеных за 2017 год пакуль няма, таму наш аналіз базуецца на лічбах 2016 года, аднак, гледзячы па ўсім, тэндэнцыі 2016-га захаваліся і ў 2017 годзе.*




**Малюнак 1. Колькасць абортаў у разліку на 100 родаў па рэгіёнах Беларусі ў 2016 годзе**







**Малюнак 2. Сярэдні ўзрост уступлення ў першы шлюб па рэгіёнах Беларусі ў 2016 годзе**




**Малюнак 3. Колькасць разводаў у разліку на 1000 шлюбаў па рэгіёнах Беларусі ў 2016 годзе**

# Поспехі савецкага развіцця

Таццяна ПРОЦЬКА

**Пытанне эфектыўнасці эканомікі таталітарных сістэм — прадмет навуковай дыскусіі да цяперашняга часу. Найбольшая колькасць раней уведзеных у навуковы зварот архіўных і літаратурных крыніц сведчыць пра ўстойлівы рост асноўных паказчыкаў развіцця народнай гаспадаркі.**







Фундаментальныя абагульняючыя навуковыя працы, прысвечаныя гэтым праблемам і напісаныя да сярэдзіны 1990-х гадоў, пераконваюць чытачоў у надзвычайнай эфектыўнасці савецкай эканамічнай мадэлі 1930-х. «Тым не менш, у выніку адміністрацыйных метадаў кіраўніцтва прамысловасць рэспублікі ў гады другой і трэцяй пяцігодкі развівалася дастаткова высокімі тэмпамі. Аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці з 1932 па 1937 гг. вырас амаль у 1,9 разы. Былі пабудаваны такія буйныя прадпрыемствы, як Аршанскі льнокамбінат, Крычаўскі цэментны, Гомельскі шкляны, Магілёўскі аўтарамонтны заводы, другая чарга БелДРЭС і дзясяткі іншых. Валавая прадукцыя прамысловасці ўсходніх абласцей БССР у 1940 г. дасягнула 2377,8 млн. руб., перавысіўшы ўзровень 1913 г. у 23 разы. Сярэднегадавая колькасць рабочых… у 1940 г. дасягнула 276,7 тыс. чалавек», — адзначаецца ў апошняй, найбольш крытычнай версіі гісторыі Беларусі савецкага перыяду (Нарысы гісторыі Беларусі, ч. 2. Мн., 1995).

Паспрабуем ацаніць дасягненні савецкай эканомікі вачыма спецслужбаў — гэта тым больш цікава і актуальна ў сувязі з юбілеем, які ўрачыста адзначыла нядаўна кіраўніцтва краіны і супрацоўнікі КДБ.

## Наколькі аб'ектыўныя дакументы?

Высновы пра эфектыўнасць савецкай эканамічнай сістэмы могуць быць перагледжаныя з увядзеннем у навуковы зварот дадзеных архіваў ОГПУ — НКВД — КДБ, асабліва матэрыялаў іх эканамічных аддзелаў (упраўленняў). У цяперашні час даступныя для даследавання дакументы фрагментарныя, па іх немагчыма скласці новыя лікавыя паказчыкі развіцця тых ці іншых галін. Але нават тыя дакументы, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Беларусі і архівах КДБ, дазваляюць зрабіць менш аптымістычныя высновы, чым тыя, якія сёння лічацца агульнапрынятымі.

Гэтыя дакументы ўтрымліваюць два важных моманты. Першы — яны сведчаць пра стаўленне грамадзян да тых ці іншых дасягненняў, адлюстроўваюць неафіцыйную грамадскую думку адносна гэтых дасягненняў. Другі — яны прадстаўляюць бачанне эканомікі вачыма спецыялістаў: экспертаў і аналітыкаў, вызначаных органамі дзяржбяспекі з ліку найлепшых. Спецыяльнага аналітычнага падраздзялення ў структуры Эканамічных аддзяленняў НКУС Беларусі не было, аналітыка беларускіх чэкістаў насіла хутчэй якасны, а не колькасны характар. Аднак і гэтага дастаткова, каб не лічыць дасягнутае ў часы БССР вялікім поспехам.

Безумоўна, працуючы з матэрыяламі АДПУ — НКУС, варта заўсёды ўлічваць, калі складзены той ці іншы аналітычны дакумент: да або пасля аналагічнага даследавання, праведзенага ў Маскве, якія агульнапалітычныя тэндэнцыі ён пацвярджае або абвяргае, каму з палітычных дзеячаў выгадны. Так, матэрыялы, якія пацвярджаюць выказаныя ў Маскве здагадкі, заўсёды больш лаканічныя, у іх менш канкрэтных прыкладаў. Наадварот, матэрыялы крытычнага зместу заўсёды багатыя спасылкамі на меркаванне канкрэтных людзей або канкрэтныя абставіны, яны больш падрабязныя, у іх больш аргументаў і развагі.

Пакуль складана ацаніць, наколькі праўдзівыя былі аналітычныя матэрыялы органаў дзяржбяспекі — ёсць усе падставы меркаваць, што жаданне адыгрываць больш важную ролю ў палітычным і эканамічным жыцці краіны спрыяла зрушэнню акцэнтаў да некаторага «згушчэння фарбаў». Але бясспрэчна, што ў іх правільна адлюстраваныя асобныя моманты і хібы эканамічнага развіцця, якасна ацэненыя тыя ці іншыя яго вынікі.

Дасягненні эканамічнага развіцця, прадстаўленыя ў тонах, кіламетрах або «павелічэнні ў гэтулькі разоў» важныя пры аналізе развіцця дзяржавы ў цэлым. Для шараговых грамадзян яны мала што значаць. На палітычную актыўнасць людзей больш уплываюць фактары паўсядзённага жыцця. Таму для органаў НКУС, разам з кантролем за дасягненнем эканамічных паказчыкаў, важным з'яўляўся кантроль і за грамадскай думкай, якая разглядалася як гарант стабільнасці дзяржавы, як галоўны фактар, які забяспечвае магчымасць рэалізацыі ці нерэалізацыі планаў пяцігодак.

## Грамадская думка пад мікраскопам

Грамадская думка краіны мела два выразы — публічны, выказаны на старонках газет і часопісаў, на радыё афіцыйнымі асобамі, ідэолагамі краіны, і непублічны. Паколькі ўсе СМІ разглядаліся перш за ўсё як сродкі агітацыі, крытычныя выступы і нататкі тут заўсёды былі строга вывераныя адпаведнымі партыйнымі структурамі і органамі кантролю за прэсай — дзяржаўнай цэнзурай Галоўліту.

Кантроль за грамадскай думкай ажыццяўляўся спецслужбамі і ўтрымліваў наступныя этапы дзейнасці: выявіць пабытавае іншадумства, выключыць іншадумцаў з грамадства, пакараць іх. Для гэтага выкарыстоўвалася аседамляльная сетка, створаная на УСІХ прадпрыемствах, установах, арганізацыях БССР і спецыяльныя пазасудовыя органы пакарання. У кантролю за грамадскай думкай, які ажыццяўлялі спецслужбы, была яшчэ адна функцыя — інфармаваць кіраўніцтва БССР аб наяўнасці іншадумства.

З усіх формаў іншадумства ў адносінах да дасягненняў сацыялістычнай эканомікі, як удалося выявіць беларускім спецслужбам, самай распаўсюджанай была крытыка і нават непрыманне стаханаўскага руху.

## «Стаханаўцаў выдумалі»

Адсутнасць матэрыяльнай зацікаўленасці работніка ў выніках сваёй працы, характэрная для савецкай эканомікі, прымушала кіраўніцтва СССР і БССР вынаходзіць розныя спосабы прыцягнення насельніцтва да прадукцыйнай працы. 10 кастрычніка 1935 года ў газеце «Праўда» быў апублікаваны перадавы артыкул «Стаханаўскі рух трэба арганізоўваць». На прадпрыемствах Беларусі пачалі фармавацца стаханаўскія брыгады, праводзіліся злёты і сходы стаханаўцаў. Да 1 лістапада 1935 года ў прамысловасці БССР было 9935 стаханаўцаў (11% усіх рабочых), у пачатку 1936-га — ужо 24 359. Снежаньскі (1935 года) пленум ЦК УКП(б) паставіў задачу зрабіць стаханаўскі рух формай вытворчай дзейнасці кожнага працоўнага. У канцы 1935 — пачатку 1936 гадоў на многіх прадпрыемствах БССР праводзіліся стаханаўскія змены, дні, пяцідзёнкі, дэкады, месячнікі.

Пра тое, як ставяцца да стаханаўцаў, што кажуць пра стаханаўскі рух, спецслужбы рэгулярна збіралі звесткі па раёнах, заводах, фабрыках. Па гэтых матэрыялах складаліся дакладныя запіскі, якія накіроўваліся ў ЦК КП(б)Б і ў Маскву. У 1936 годзе спецслужбы інфармавалі пра меркаванне «народных масаў» наступным чынам: «стаханаўцаў выдумалі таму, што бальшавікі адчуваюць сваю гібель, яны ведаюць, што ўсе людзі супраць іх, таму хочуць прывабіць на свой бок рознымі прынадамі», «выслужыся — атрымаеш бульбяны медаль», «няма розніку па-стаханаўску працаваць: шмат заробіш, дык шмат утрымаюць». Асабліва вылучаліся меркаванні сялян. Людзі казалі: «Даць стаханаўцам горшую зямлю — і хай паспрабуюць падняць ураджай»; «усім на працу ў калгасы выходзіць не трэба, хай выходзяць адны стаханаўцы, якіх прэміравалі»; «стаханаўскімі метадамі больш прымушаюць працаваць, цяпер больш жорстка эксплуатуюць, чым пры капіталізме»; «дурні толькі працуюць па-стаханаўску і губляюць сваё здароўе».

Стаханаўскі рух не карыстаўся папулярнасцю і сярод рабочых: спецслужбы сістэматычна паведамлялі пра зрыў стаханаўскага руху, кампраметацыі стаханаўцаў. У маі 1936 года сакратару ЦК КП(б)Б М. Гікала была накіраваная дакладная запіска «Аб фактах процідзеяння стаханаўскага руху на прадпрыемствах БССР». Галоўнай прычынай адсутнасці энтузіязму былі названыя «чуткі аб зніжэнні расцэнак і павышэнні нормаў выпрацоўкі, выкліканыя стаханаўскім рухам». Нават на тых прадпрыемствах, дзе рух быў досыць добра арганізаваны (добрушская фабрыка «Герой працы», бабруйская фабрыка «Кастрычнік» і інш.), антыстаханаўскія настроі былі значнымі.

Факты «антыстаханаўскіх настрояў» былі выяўленыя ў Мінску, Бабруйску, Гомелі, а таксама ў Мінскім, Клімавіцкім, Касцюковіцкім, Быхаўскім, Добрушскім, Асвейскім, Клічаўскім і іншых раёнах БССР. Так, слесар Антыной, які працаваў на добрушскай фабрыцы «Герой працы», казаў рабочым: «Вы працуеце, а частка зарплаты ідзе тым, хто прыдумаў гэтую стаханаўшчыну, вось так падманваюць нашага брата — перш дадуць трохі рабочым выйграць, а потым у два разы больш падмануць, вось і свабода». Муляр гомельскага шклозавода імя Сталіна Тачылін казаў: «Становяцца стаханаўцамі тыя, хто бліжэй да начальства».

І слесар Антыной, і муляр Тачылін былі арыштаваныя. Лёс іх невядомы.

## Даўгабуды

Масавыя рэпрэсіі другой паловы 1930-х гадоў мелі не толькі палітычны характар, а, перш за ўсё, эканамічны. У чэрвені 1937 года інспектар НКУС БССР Кац падрыхтаваў разгорнутую даведку «Аб праведзеных нацыянал-фашысцкай арганізацыяй шкодніцкіх, падрыўных і разбуральных актах у прамысловасці і фінансавай гаспадарцы БССР». Абапіраючыся на гэты дакумент і іншыя падобныя матэрыялы, коратка разгледзім, як рэальна выглядалі асноўныя галіны народнай гаспадаркі.

Галоўнай праблемай паліўна-энергетычнай гаспадаркі БССР, ад развіцця якой наўпрост залежаў стан прамысловасці БССР, з'яўлялася разрыў паміж патрэбамі і рэальным забеспячэннем цеплавых электрастанцый палівам. Асноўныя энергетычныя цэнтры БССР — БелДРЭС імя Сталіна, цеплаэлектрастанцыі Мінска, Гомеля, іншых гарадоў, сістэматычна недаатрымлівалі паліва, што выклікала перабоі з падачай электраэнергіі на прадпрыемствы. Адсутнасць дастатковай колькасці паліўных баз, што непасрэдна забяспечвалі палівам буйныя энергетычныя цэнтры, прымушала шукаць паліва «часам на вельмі далёкіх адлегласцях ад цэнтра». Гэта «значна павялічвае сабекошт электраэнергіі», перагружае транспарт. Акрамя таго, у 1937 годзе былі фактычна сарваныя будаўніцтва Мінскай ЦЭЦ, другая чарга БелДРЭС будавалася ўжо 4 гады, «зацягнутае да бясконцасці пытанне аб будаўніцтве Гомельскай станцыі». Адсутнасць кваліфікаванага адзінага кіраўніцтва галіной — яшчэ ў 1934 годзе «Белэнерга» быў ліквідаваны — выклікала частыя аварыі на электрастанцыях. У дакладной запісцы адзначалася «пагрозлівае становішча з забеспячэннем электраэнергіяй большасці прадпрыемстваў БССР».

Індустрыялізацыя БССР павінна была ажыццяўляцца хуткімі тэмпамі. Аднак, «па

# вачыма спецслужбаў

большасці важнейшых аб'ектаў прамысловага будаўніцтва» назіраўся даўгабуд, што вяло да амярцвення ўкладзеных капіталаў. Будаўніцтва Аршанскага льнокамбіната, Мінскай абутковай фабрыкі было зацягнутае на 2 гады, Магілёўскага трубаліцейнага завода — на 2,5 гады, механічнага цэха Мінскай металургічнай фабрыкі імя Кірава — на 3 гады, Гомельскага тлушчавага камбіната, Быхаўскага ацэтонавага завода — на 3,5 года і гэтак далей. У выніку будаўніцтва прадпрыемстваў значна перавышала каштарысны кошт; напрыклад, на будаўніцтва Магілёўскага трубаліцейнага завода было затрачана 4,7 млн. рублёў замест запланаваных 1,08 млн.

Для вялікай колькасці прамысловых будоўляў, распачатых у 1930-х гадах, не хапала цэглы і вапны. Гэтымі матэрыяламі ў першую чаргу забяспечваліся прадпрыемствы ваеннага значэння. Будаўніцтва культурных, навуковых установаў, жылых памяшканняў было ў апошняй чарзе. У 1936 годзе былі сарваныя тэрміны будаўніцтва тэатра ў Мінску, будынку Акадэміі Навук. Будаўніцтва вапнавых заводаў у Вярхоўе і Левай Рубе (недалёка ад Віцебска) зацягнулася на 4–5 гадоў. Яно было распачатае без распрацаванага праекта, геалагічных разведак запасаў сыравіны. У выніку будоўлі з-за адсутнасці вапны проста зрываліся.

Узмоцненае будаўніцтва энергетычных прадпрыемстваў, накіроўванне туды асноўных капіталаўкладанняў тармазіла развіццё прадпрыемстваў харчовай і лёгкай прамысловасці, якая, як пазначалі спецслужбы, «на сённяшні дзень зусім не развітая». «Каласальная колькасць» гародніны, ягад, грыбоў штогод выкідалася з-за адсутнасці перапрацоўчых прадпрыемстваў. Саматужныя заводы трэстаў «Белплодовощ» і «Белкоопплодовощ» выпускалі толькі паўфабрыкаты, якія з-за нізкай якасці людзі не куплялі, і іх даводзілася гэтак жа выкідаць на сметнік. Адносна невялікае будаўніцтва харчовых прадпрыемстваў ажыццяўлялася без аналізу наяўнасці сыравіннай базы (як, напрыклад, будаўніцтва завода кансерваванага малака ў Рагачове), з вялікімі будаўнічымі недаробкамі (Гомельскі тлушчавы камбінат, Віцебскі халадзільнік), «што выклікала сістэматычныя прастоі на вытворчасці».

У другой палове 1930-х гадоў было прынятае рашэнне вырабляць у БССР сінтэтычны каўчук (Бабруйскі хімічны завод). Для гэтага быў неабходны спірт, на вытворчасць якога накіроўвалася да 50% усіх капіталаўкладанняў у харчовую прамысловасць. Аднак будаўніцтва спіртзаводаў ажыццяўлялася без аналізу наяўнасці сыравіннай базы (бульбы), заводы прастойвалі з-за адсутнасці сыравіны, яе даводзілася прывозіць здалёк, што вяло да павелічэння сабекошту прадукцыі.

Швейная галіна ў БССР займала цэнтральнае месца ў сістэме лёгкай прамысловасці. Паколькі ў тыя часы дзяржавай ацэньваліся толькі колькасныя і высокія паказчыкі, фабрыкі выпускалі шмат прадукцыі, нават не маючы для гэтага неабходнага абсталявання і кваліфікаваных кадраў. Таму, як адзначалі спецслужбы, меў месца масавы брак, якасць прадукцыі была вельмі нізкай. У швейных вырабаў адсутнічалі аздабленні, фасоны адзення былі вельмі простыя.

### У калгасах не лепш

Асабліва цяжкай была сітуацыя ў сельскай гаспадарцы. 31 сакавіка 1938 года наркам НКУС Берман накіраваў у Маскву дакладную запіску «Аб шкодніцтве ў сельскай гаспадарцы БССР». У запісцы адзначалася: на 1 студзеня 1938 года ў БССР калектывізавана 685 095 двароў, або 87,5%. Гэта азначала, што селяніну няма дзе было зарабіць на жыццё, акрамя як у калгасе. Як адзначалі спецслужбы, разам з тым, па правераных 5 919 гадавых справаздачах калгасаў, у 1937 годзе сярэдняя выдача на адзін «працадзень» у БССР складала: збожжавых 1 кілаграм 708 грамаў і 35 капеек грашыма. Сярэдні заробак на сялянскі двор быў у гэты час 393 працадні. Па шэрагу калгасаў даход быў яшчэ ніжэй. Людзі жылі надгаладзь, мела месца жабрацтва.

Паколькі патрабавалася ўводзіць у севазварот новыя землі, што было досыць складана пры ўзроўні механізацыі таго часу, у калгасах масава прыпісвалі пасяўныя плошчы. На думку спецслужбаў, насамрэч у 1937 годзе дайшлі да ўзроўню пасяўных плошчаў толькі 1929 года. Акрамя таго, амаль ні ў адной гаспадарцы не было правільных севазваротаў.




За 1937 год на 64 626 коней зменшылася конскае пагалоўе. Загінула коней 2–3 гадоў — 4900 галоў, загінула рабочых коней — 38 300 галоў, прададзена аднаасобнікам — 5 500 галоў. «Адносіны да коней у калгасах варварскія, за іх, як правіла, ніхто не адказвае», — пісалі спецслужбы.

Буйная рагатая жывёла скарацілася на 58 400 галоў. «Захворванне рагатай жывёлы бруцэлёзам па рэспубліцы не памяншаецца, наадварот, у асобных раёнах ачагі захворванняў распаўсюджваюцца. У БССР маецца 589 кропак, ахопленых інфекцыйнай анеміяй. У шэрагу гаспадарак забіта анемійных коней — 3189; вывезена з БССР анемійных коней — 4042. Ветэрынарнае кіраўніцтва Наркамзема БССР работу па барацьбе з інфекцыйнымі захворваннямі вядзе дрэнна. Раёны ветэрынарнымі работнікамі ўкамплектаваныя дрэнна. Так, на 20 сакавіка 1938 года маецца недакамплект: участковых заатэхнікаў — 148; заатэхнікаў рознай спецыяльнасці — 97; інспектараў-заатэхнікаў — 20; старшых заатэхнікаў — 4; заатэхнікаў-трусаводаў — 8; за ўсё — 277 чал.», — паказвалі спецслужбы.




### Татальны дэфіцыт

У шэрагу дакладных запісак і даведак, напісаных вясной 1938 года і накіраваных у НКУС СССР або ЦК КП(б)Б, адзначаецца цяжкая сітуацыя, звязаная з забеспячэннем насельніцтва прадметамі першай неабходнасці.

Спецслужбы пішуць пра чэргі за мясам, рыбай, бульбай, газай, мануфактурай, абуткам. Чэргі, на іх думку, былі абумоўленыя тым, што прадукты харчавання і прамысловыя тавары паступалі ў продаж нерэгулярна, з вялікімі перабоямі. Па стане на 1 красавіка 1938 года была складзеная нават «Даведка пра перабоі ў забеспячэнні насельніцтва прадуктамі і прамысловымі таварамі па БССР». У ёй паказвалася наступная карціна. У Мінску патрэбы насельніцтва па мясе задавальняліся на 25%: у дзень гораду неабходна 10–12 тон мяса, у квартал — 900 тон. Рэальна завозілася 205 тон. «Становішча з мясам цяжкае», — адзначалася ў даведцы. Не задавальняліся патрэбы насельніцтва па каўбасных вырабах, рыбе, малаку, сыру, масле: з плану ў 225 тон рыбы ў квартал атрымана 90 тон, пры плане завозу малака 10–12 тон у суткі адпускаецца 2 тоны, з неабходнай 21 тоны сыру ў квартал прывозілася 13 тон і гэтак далей. Натуральна, што ў продажы харчы адсутнічалі.

Не лепшай была сітуацыя з прамысловымі таварамі. У Мінску на квартал баваўняных вырабаў павінны былі даставіць на 10 млн. руб., рэальна атрымана на 7,7 млн., галёшаў — з 2,7 млн. руб. атрымана на 1,9 млн. руб., план па абутку складаў 1,3 млн. руб. — атрымана абутку на 1 млн. руб.

Адзначым, што ў даведцы гаворка ідзе пра невыкананне планавых заданняў, а не пра задавальненні рэальных патрэбаў насельніцтва: планы былі значна ніжэй. Так, план па завозу панчохаў складаў 100 тысяч руб. і быў выкананы. Аднак, нягледзячы на гэта, у кожнай краме, дзе прадавалі панчохі, збіраліся штодзённыя чэргі па 200–300 чалавек.

Спецслужбы прааналізавалі склад мінскіх чэргаў. У асноўным, у іх было сельскае насельніцтва, «якое мае на руках афіцыйныя даведкі праўленняў калгасаў пра тое, што едуць у горад па тавары для сябе». Натуральна, ва ўмовах дэфіцыту меў месца перапродаж тавараў па больш высокай цане. Гэта называлася спекуляцыяй і лічылася крымінальным злачынствам.

### А не ў сталіцы?

У іншых гарадах БССР забеспячэнне было яшчэ горшым. Былі правераныя Барысаў, Петрыкаў, Бабруйск, Мсціслаў, Орша, Лепель, Краснаполле, Гомель, Мазыр, Асіповічы. Ва ўсіх гарадах мяса ў сістэме кааперацыі наогул не прадавалася, чэргі «за мануфактурай, калі яна ёсць», былі ў 300–500 чалавек, за газай — 100–400 чалавек.

Варта адзначыць асаблівасці савецкага бюджэтнага планавання. Аб'ём прыбыткаў у бюджэце, як правіла, завышаўся. «Пад бачнасцю барацьбы за выкананне даходнай часткі дзяржаўнага бюджэту, куды паступала ў выглядзе адлічэнняў частка прыбыткаў прамысловасці, шкоднікі выраблялі праз Дзяржбанк канфіскацыю абаротных сродкаў прадпрыемстваў у пакрыццё не паступаючых у дзяржбюджэт адлічэнняў ад прыбыткаў. У выніку такой канфіскацыі даходаў ад арыштаў і закрыцця бягучых рахункаў атрымалася, што многія галіны і прадпрыемствы рэспубліканскай прамысловасці былі пакінутыя зусім без абаротных сродкаў (шкляная, гарбарна-абутковая і інш.)», — паказвалася ў даведцы НКУС БССР ад 19 чэрвеня 1937 года. Не маючы абаротных сродкаў, прадпрыемствы прастойвалі, зарплата працоўных «выплачвалася са значнымі перабоямі, што выклікала незадаволенасць сярод іх».

Спецслужбы былі праінфармаваныя пра рэальную сітуацыю ў эканоміцы БССР. Атрыманыя імі звесткі перадаваліся ў ЦК КП(б)Б, кіраўніцтву краіны. Аднак гэта інфармацыя заставалася цалкам сакрэтнай, вядомай вельмі вузкаму колу асобаў. Нежаданне рассакрэціць дакументы архіва КДБ дазваляе і сёння скажаць гісторыю Беларусі, прыпісваць яе савецкаму перыяду поспехі, якіх не было.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. #MeToo атакуе Пуціна?

Як вядома, Дзярждуму РФ страсянулі аж два скандалы на глебе сексуальных дамаганняў. Першым фігурантам стаў дэпутат Леанід Слуцкі. Хутка да абвінавачванняў на адрас Слуцкага дадаліся абвінавачванні журналіста-гея на адрас лідара фракцыі ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага. Аналізуючы абодва выпадкі, прапуцінскія эксперты кажуць, што гэта была «разведка перад боем». «Мы назіраем апрабаванне новай тэхналогіі. Яе масавае прымяненне яшчэ наперадзе. І грамадскае меркаванне будуць рыхтаваць да такога ўжывання», — піша адзін з аналітыкаў. На думку патрыётаў, хутка праз інтэрнэт будуць укараняць думку пра тое, што невінаватых сярод мужчын у прынцыпе быць не можа. Сэнс кампаніі — не больш і не менш, як падрыхтаваць міну пад Пуціна або яго пераемніка. «Так, сёння пры дапамозе #MeToo ў Пуціна нават голасу не адбярэш. Але праз шэсць гадоў будуць выбіраць новага лідара. Да таго часу падрасце цэлае пакаленне выбаршчыкаў, якія гадаваліся ва ўмовах пастаянных культурна-палітычных нападаў. І вось тады, цалкам верагодна, можна будзе з дапамогай #MeToo пазбавіцца практычна ад любога кандыдата», — лічаць патрыёты.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Як не адбыўся саюз лацінскіх дзяржаў

Іспанскае выданне «El Publico» пазнаёміла чытачоў з невядомай старонкай гісторыі. Аказваецца, у 1930-я гады Мусаліні рабіў спробы стварыць новую дзяржаву — «Лацінскі Блок». У склад гэтага фармавання павінны былі ўвайсці Італія, Францыя, Партугалія і Іспанія. Упершыню Дучэ пачаў казаць пра нейкі саюз лацінскіх дзяржаў напрыканцы 1920-х гадоў, калі на хвалі крызісу ў Іспаніі ўзмацніліся камуністы. Рым прапанаваў іспанскаму дыктатару Прыма дэ Рывера сварыць саюзную дзяржаву, каб сумесна змагацца з «чырвонай пагрозай». Аднак іспанскія фашысты пабачылі ў гэтым спробу падпарадкаваць Іспанію больш моцнай на той час Італіі. Прыкладна праз дзесяць гадоў пра «Лацінскі Блок» зноў узгадалі. Гэтым разам Мусаліні дзейнічаў праз Францыю, якая прайграла вайну Германіі. Частка чальцоў адміністрацыі Вішы была не супраць стварыць «Лацінскі Блок». У 1941-м падчас візіту ў Італію інтарэс да такога блока выказаў Франка. Аднак мары Мусаліні засталіся марамі. Жорсткія баі ў Лівіі, якая была італьянскай калоніяй, выклікалі ў Парыжы і Мадрыдзе трывогу наконт магчымага ўдзелу ў вайне ў якасці саюзнікаў Рыма. У выніку кансультацыі наконт адзінай лацінскай дзяржавы спыніліся.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. У турму за першакрасавіцкі жарт

Свет адзначыў 1 красавіка. Напэўна, найбольш арыгінальна адрэагавала на Дзень Дурня паліцыя ў Казахстане. Паводле заявы ведамства, аўтарам некаторых першакрасавіцкіх фэйкавых рассылак пагражае штраф і пазбаўленне волі да 10 гадоў. Ужо складзены дакладны спіс, каго будуць шукаць. Гэта аўтары жартаў пра тое, што ў садавіне ў казахскіх крамах знайшлі сляды вірусаў Эболы і СНІДу. Шукаюць паліцэйскія і таго, хто прыдумаў жарт пра банду педафілаў, чальцы якой ездзяць па дварах, вышукваюць адзінокіх дзяцей, а потым заваблівацюць іх у машыны з дапамогай шчанюкоў і кацянят. Пры ўсёй камічнасці сітуацыі, нічога смешнага тут няма. У мінулым годзе аднаму казаху ўжо далі 2,5 гады турмы за жарт на 1 красавіка. Ён запусціў у сацыяльныя сеткі інфармацыю, што пад Алматы прарвала плаціну, і на горад ідзе дзесяціметровая хваля вады. Некаторыя сапраўды паверылі ў тую навіну.

**Паводле казахскай прэсы**

### КАНАДА. Рэабілітацыя правадыроў

Канадскі прэм'ер Джасцін Трудо амніставаў шэсць індзейскіх правадыроў, якія былі пакараныя на шыбеніцы 150 гадоў таму па пастанове ўраду правінцыі Брытанская Калонія. Пакаранню папярэднічаў канфлікт індзейцаў і кампаніі, якая будавала дарогу праз тэрыторыю абарыгенаў. Пры гэтым белыя дзейнічалі вельмі непрыгожа — запрасілі індзейцаў на перамовы, каб пасля арыштаваць і забіць парламенцёраў. Праз 150 гадоў улады прызналі, што індзейцы мелі права забіць 14 белых будаўнікоў, якія насуперак дамовам займаліся будаўніцтвам на індзейскіх землях. Аднак наўрад ці цяпер у адносінах канадцаў і індзейцаў пачнецца абсалютны мір. У тым ліку і праз падзеі ў суседніх Злучаных Штатах, дзе ў 2020-м будуць святкаваць 400 гадоў прыбыцця першых каланістаў у Паўночную Амерыку. Індзейцы разглядаюць тую падзею як пачатак генацыду і рыхтуюцца да акцый пратэсту. Таксама важна адзначыць, што 2020 — гэта год наступных выбараў прэзідэнта ЗША.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Французская камуна

Алег НОВІКАЎ

**50 гадоў таму ў Францыі пачалася студэнцкая рэвалюцыя. Адна з самых цікавых тэмаў юбілейных дэбатаў сярод гісторыкаў: што было б, калі б студэнты захапілі ўладу?**



Фота www.universe-tss.su


Фота www.photochronograph.ru

Як вядома, спіраль той рэвалюцыі пачала раскручвацца на глебе абсалютна кур'ёзнай праблемы — узімку 1968-га студэнты патрабавалі дазволу наведваць у інтэрнатах студэнтак-сяброўак. Прэса каментавала тыя падзеі іранічна, аднак ужо да сакавіка ўсім было не да жартаў. 22 сакавіка студэнтамі — сябрамі леварадыкальных груповак быў захоплены дэканат сацыялагічнага факультэта ў Нантры (прыгарад Парыжу).

Акупацыя стала пралогам да новай серыі беспарадкаў. Паступова хваляванні перакінуліся ў цэнтр сталіцы, адкуль пашырыліся па ўсёй краіне. Улада аказалася не ў стане збіць пратэстную дынаміку і пашырэнне геаграфіі выступаў. Больш таго, праз нейкі час студэнтаў падтрымалі працоўныя і сярэдні клас, якія быў напалоханы паліцэйскім гвалтам.

Не дзіва, што паступова ўладную вертыкаль ахапіў паралюш. Кульмінацыя прыйшлася на 29 мая, калі прэзідэнт Шарль дэ Голь раптам знік з краіны, якая з 10 мая фактычна была паралізаваная ўсеагульным страйкам. Толькі праз некалі гадзін высветлілася, што гарант знаходзіцца на французскай базе ў нямецкім Бадэн-Бадэне для кансультацый з вайскоўцамі. Тым не менш адчуванне таго, што ў краіне паўстаў вакуум улады, панавала ва ўсім грамадстве.

На думку гісторыкаў, у гэты час студэнты мелі рэальны шанец захапіць Елісейскі палац і абвясціць стварэнне новай улады. Прынамсі, такую версію прапанаваў ВінсэнтКіві, аўтар кнігі «99 дзён Кон-Бендзіта», якая днямі з'явілася ў французскіх кнігарнях і адразу стала бестселерам.

Паводле ВінсэнтаКіві, для захопу ўлады студэнтам дастаткова было выйсці за межы ўніверсітэцкага Лацінскага кварталу, дзе знаходзілася іх база. Калі б пачаўся рух натоўпу ў бок суседняга будынку парламента, узняліся б рабочыя прыгарады. Дэмаралізаваны навінай пра ўцёкі прэзідэнта спецназ адмовіўся чыніць супраціў. Былі паралізаваныя і структуры ўраду. Справа ў тым, што сітуацыя з ад'ездам Шарля дэ Голя вельмі нагадвала сцэны часоў Французскай рэвалюцыі, калі арыстакраты масава беглі з рэвалюцыйнага Парыжу. Паралелі з часамі якабінцаў, як лічыць ВінсэнтКіві, надалі б рэвалюцыянерам 1968-га ўсенародную легітымнасць. На бок студэнтаў магла перайсці нават частка галістаў.

Аўтар кнігі «99 дзён Кон-Бендзіта» лічыць, што, захапіўшы ўрадавы квартал, студэнты мелі шанец стварыць сваю адміністрацыю. У такім разе Францыю чакаў бы сапраўды беспрэцэдэнтны рэвалюцыйны эксперымент. Як прызнаюцца сёння самі актывісты руху 1968-га, хутчэй за ўсё, ад іх трэба было чакаць нейкага дэкрэту аб пераходзе ўсіх прадпрыемстваў пад кантроль працоўных калектываў. Самі прадпрыемствы маглі перайсці ў рукі супрацоўнікаў. Саветы маглі паўстаць таксама ў казармах і ва ўсіх навучальных установах. Такім чынам, у краіне была б абвешчаная новая мадэль улады — наўпростая дэмакратыя.

Думалі студэнты і пра тое, як падзяліць партфелі. Напрыклад, малады 16-гадовы трацкіст Рамэйн Гупіл, які з часам стаў вядомым кінематаграфістам, у 1968-м бачыў сябе будучым дырэктарам МУС і, дарэчы, сапраўды меў сімпатызантаў сярод маладых паліцэйскіх. Увогуле, маладыя трацкісты найбольш сур'ёзна за іншых левaрадыкалаў рыхталіся да захопу ўладных інстытутаў.

Аднак паслядоўнікі Троцкага прызнавалі — прэзідэнтам мог быць выключна харызматычны анархіст Даніэль Кон-Бендзіт, які стаў сімвалам студэнцкіх пратэстаў. Тое, што ў 23-гадовага Кон-Бендзіта быў нямецкі пашпарт, нікога асабліва не хвалявала. Лічылася, што стабілізаваць новы рэжым можна за кошт запрашэння ў склад ураду тагачасных лідараў сацыялістаў — Франсуа Мітэрана і П'ера Мендэса-Франса.

Адразу паўстае пытанне, як доўга мог утрымацца падобны рэжым? Справа не толькі ў тым, што Шарль дэ Голь і французскі вайсковы корпус у ФРГ наўрад ці пагадзіліся б прызнаваць рэвалюцыйны Парыж. Галоўны лагер контррэвалюцыі ўяўлялі не вайскоўцы або галісты. Ролю Вандэі ў 1968-м выконвала Кампартыя, апарат якой быў цудоўна ўпісаны ў рэаліі Пятай рэспублікі. У дадатак камуністы кантралявалі прафсаюзы, якія гатовыя былі абмежавацца ростам заробкаў. «Нашы мары пра захоп улады наўрад ці былі магчымыя без падтрымкі камуністаў — вядучай левай сілы, якая ўпарта не жадала рабіць рэвалюцыю», — прызнаецца на старонках кнігі актывіст Ален Ліпіец.

Камуністаў нельга было схіліць да супрацоўніцтва ў тым ліку праз пазіцыю Крамля — куратара французскіх камуністаў. Брэжнеў памятаў тэкст тэлеграмы, якую Кон-Бендзіт і яго прыхільнікі даслалі ў Маскву ўвесну 1968-га: «Апошняга буржуя мы павесім на гальштуку апошняга бюракрата!» Была яшчэ адна праблема. Сам Даніэль Кон-Бендзіт наўрад ці быў тады гатовы да палітычнай кар'еры. Трацкісты і сацыялісты для яго былі сумнымі палітыканамі.

З іншага боку, магчыма, менавіта няздольнасць студэнтаў захапіць уладу і выратавала студэнцкую рэвалюцыю. Шарль дэ Голь пасля вяртання з Германіі стабілізаваў сітуацыю, маргіналізаваў пратэстны рух, аднак міф пра 1968-ы год захаваўся і паступова змяніў свет. Нельга нічога дадаць да слоў расійскага журналіста Улада Тупікіна: «Не будзем хітраваць — ніхто з нас цалкам не разумее 1968-ы, затое ўсе мы жывем у яго наступствах. Усё, што навокал нас, — грамадская, культурная і палітычная рэальнасць, нормы сексуальных паводзінаў, масавыя стэрэатыпы, рэлігійныя вераванні, уяўленні пра поспех у жыцці — падпалі пад татальную рэвізію ў канцы 1960-х гадоў, татальны злому і татальную перабудову нанова».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Aa | Bb | Vv | Gg | Ğğ | | Ee |
| Аа | Бб | Вв | Гг | Ґґ | Дд | Ее |
| Je je | Žž | Zz | Yy | Ii | Ï | Jj |
| Єє | Жж | Зз | Ии | Іі | | Йй |
| Kk | Ll | Mm | Nn | | | Rr |
| Кк | Лл | Мм | Нн | | | Рр |
| Ss | Tt | Uu | Ff | | c | Čč |
| Сс | Тт | Уу | Фф | | Цц | Чч |
| Šš | Ščšč | ‘, ´ | Ju j | | | |

Малюнак www.pravda.ru

# «Sprobujte latynku, ce ne strašno»

*Алег НОВІКАЎ*

**Нечаканая прапанова міністра замежных спраў Украіны Паўла Клімкіна пачаць дыскусію пра перавод украінскай пісьменнасці на лацінку выклікала шквал думак, сярод якіх трапляюцца вельмі арыгінальныя.**

Пачаць агляд можна з разважанняў мовазнаўцы Юрыя Зялёнага, які лічыць, што без пераходу на лацінку Украіна не пераможа ў канфлікце з Расіяй. Сваю думку на старонках выдання «Gazeta.ua» ён тлумачыць на прыкладзе В'етнама. «В'етнам заўсёды супрацьстаяў Кітаю. Мовы ў іх адной групы. У розныя гістарычныя перыяды паміж краінамі вяліся войны. Але ў В'етнама атрымалася канчаткова давесці Пекіну і свету, што ён не ўваходзіць у склад Кітая, толькі калі в'етнамцы перайшлі на лацінскую азбуку», — кажа лінгвіст. Увогуле, Юрый Зялёны лічыць, што рэформу правапісу трэба рабіць кожныя 15 гадоў. Інакш мове пагражае застой.

А вось паводле літаратара Андрэя Кокацюха, у выніку рэформы, што задумаў Клімкін, ва Украіне будзе панаваць не ўкраінская лацінка, а расійская. «Руская мова вельмі шырока распаўсюджаная ва Украіне. Уявіце сабе: Украіна раптам афіцыйна пачне ўжываць толькі лацінку. У такім выпадку ў большасці рэстарацый у меню напішуць «kofe», а не «kava». Вы будзеце замаўляць не «mlintsi z sirom», а «bliny s tvorogom», — кажа пісьменнік.

Тэза пра тое, што лацінізацыі павінна папярэднічаць украінізацыя ўсяго насельніцтва краіны, вельмі папулярная. У сатырычнай форме яе перадаў экс-нардэп Васіль Горбаль, які жартуе: «Толькі-толькі вывучы суржык, а тут на лацінку ўжо трэба пераходзіць».

Тарас Клочка на сайце «Деловая столица» заўважае, што лацінка не ў стане адэкватна перадаваць гукі ўкраінскай мовы. Галоўная складанасць пераходу, як мяркуе Клочка, палягае ў тым, каб забяспечыць графічнымі сродкамі перадачу цвёрдасці-мяккасці зычных, што для ўкраінскай мовы з'яўляецца крытычна важным. «Напрыклад, словы «кот» і «кіт» адрозніваюцца перш за ўсё НЕ якасцю галоснага «і», а мяккасцю зычнага «к». Украінскай лацінцы давялося б удвая павялічыць колькасць зычных літар, што робіць правапіс вельмі нязручным», — рэзюмуе Клочка.

Аматары кірылічнай версіі нагадваюць, што кірыліцу прыдумалі пасля лацінкі і, натуральна, яе вынаходнікі — Кірыла і Мяфодзій — улічвалі недахопы лацінскага правапісу. «Кірыліца стваралася пазней лацінскага алфавіту, і з пункту гледжання графікі практычна ідэальная — кожнаму гуку адпавядае свая літара. У школе дзецям кажуць: «як чуецца, так і пішацца», і гэта вельмі дапамагае вывучэнню мовы (...) Нельга казаць пра прагрэс, спасылаючыся на больш раннія і прымітыўныя дасягненні... Паводле гэтай логікі трэба адмовіцца ад алфавіту наогул і пачаць карыстацца петрогліфамі», — іранізуе на сайце «Обозреватель» Ягор Мядзведзеў.

З'явіліся і тыя, хто, не чакаючы афіцыйнай пастановы пра рэформу, ужо пачаў «лацінізацыю». Гэта, напрыклад, рэдакцыя выдання «Na chasi», якая пачала выстаўляць матэрыялы як на кірыліцы, так і на лацініцы. Праўда, якасны пераход на лацінку могуць дазволіць сабе не ўсе. Выданне «Обозреватель» абмежавалася тым, што змяніла лагатып сваёй назвы на «Obozrevatel». Тое ж самае яно прапануе рабіць і іншым калегам. «Sprobujte latynku, ce ne strašno», — звяртаецца выданне і да чытачоў.

Яшчэ адна арыгінальная ідэя з лагеру прыхільнікаў лацінкі — украінскі алфавіт неабходна змяніць, каб яшчэ больш раззлаваць расіян. Калі прыняць закон пра пераход на лацінку, то расійскае кіраўніцтва, лічаць яны, дакладна зробіць нейкі памылковы крок і прайграе ўкраінскую партыю.

Нарэшце, як і трэба было чакаць, тэма змены алфавіту стала хлебам для аматараў прыколаў. Яны ахвотна прапануюць свае варыянты рэформы: напрыклад, перайсці замест лацінкі на руны, якімі карысталіся старажытныя вікінгі. Ініцыятары абяцаюць, што падобны манеўр адразу пахавае ўсе спробы Масквы прыватызаваць спадчыну Старажытнай Русі, якую стварылі тыя самыя вікінгі-нарманы.

Далей за ўсіх пайшоў сайт Strana.ua, які піша: «А чаго, спадар міністр, так сціпленька? Чаго б ужо адразу ні прапанаваць паралельнае выкарыстанне «вузельчыкавага пісьменства». Трэба перадаваць інфармацыю праз вузлы, як гэта рабілі старажытныя інкі. Дарэчы, выкарыстанне «вузялковіцы» можа даць яшчэ і магутны штуршок айчыннаму сектару жывёлагадоўлі. Паколькі для напісання на мове вузлоў указаў, распараджэнняў і іншых падзаконных актаў інкамі выкарыстоўвалася ніткі з воўны вярблюдавых, накшталт ламы», — здзекуюцца з ідэі рэформы правапісу журналісты.

Між тым, падчас дэбатаў перамагае думка, што без вялікіх грошай такую рэформу не правесці. А паколькі ў краіне хапае эканамічных праблемаў, сэнсу спрачацца пра лацінку няма. Таму можна чакаць, што цяперашні раўнд інтарэсу да лацінкі будзе сыходзіць. Аднак канчаткова з украінскай публічнай дыскусіі гэта тэма не знікне.

Хаця нейкія канкрэтныя наступствы цяперашняй дэбаты ўсё ж могуць мець. З улікам таго, што грамадства імкліва падзялілася на фанатаў лацінкі і іх антаганістаў, узнікла версія, што Клімкін замест таго, каб выконваць функцыі дыпламата, займаецца абы-чым, аж да таго, што спрыяе расколу нацыі. У сувязі з гэтым нават у салідных СМІ гучаць заклікі да адстаўкі міністра.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Горан Ракіч

Лідар партыі «Сербскі спіс», якая прадстаўляе інтарэсы косаўскіх сербаў, абяцае ўжо 20 красавіка абвясціць пра стварэнне новага дзяржаўнага фармавання — Саюза сербскіх абшчын (ССА). У ССА павінны ўвайсці раёны Косава, дзе пражываюць этнічныя сербы.

Размова пра ССА ідзе даўно, але ўсе бачылі гэтую структуру як аўтаномную частку Косава. Дзеля гэтага косаўскія сербы пайшлі на вялікія саступкі. Напрыклад, фракцыя «Сербскага спісу», якая прайшла ў косаўскі парламент па выніках выбараў у верасні 2017 года, падтрымала кааліцыю на базе партыі былых албанскіх палявых камандзіраў — у абмен на тры міністэрскія пасады і перспектыву стварэння ССА. Але нават такія значныя саступкі ні да чаго не прывялі. Пагадненне аб ССА так і не было ратыфікавана косаўскім парламентам.

Ужо ў гэтым годзе адбылося забойства аднаго з лідараў косаўскіх сербаў Алівера Іванавіча і затрыманне косаўскім спецназам сербскага міністра Марка Джурыча, што радыкальна абвастрыла сітуацыю ў краі. У адказ Бялград пачаў ваенныя вучэнні, а «Сербскі спіс» пакінуў урад, справакаваўшы ўрадавы крызіс. Цяпер косаўскія сербы пагражаюць стварэннем сваёй дзяржавы. У сваю чаргу, Прышціна абяцае жорсткі адказ сепаратыстам.

Нягледзячы на эмацыйны фон, ёсць меркаванне, што да канфлікту справа не дойдзе, паколькі знешнім гульцам — Маскве і Брусэлю, — абвастрэнне не трэба. Самае дзіўнае, што на баку сербаў зараз выступаюць як Расія, так і Украіна.



### Нікол Пашынян

Лідар армянскай апазіцыйнай партыі «Грамадзянская дамова», дэпутат парламента ад блока «Елк», вырашыў пайсці шляхам Махатмы Гандзі, які, як вядома, паспяхова мабілізаваў індусаў на антыкаланіяльную барацьбу падчас сваіх пешых паходаў па краіне.

Пашынян вырашыў адправіцца ў вялікі паход. Апазіцыянер з гуртком аднадумцаў мае намер абыйсці ўсе рэгіёны Арменіі, наведаць найбольш буйныя населеныя пункты і ў працэсе маршу павялічыць колькасць удзельнікаў акцыі. На думку Пашыняна, за кошт пешага маршу можна не даць цяперашняму прэзідэнту Сержу Саргсяну працягнуць праўленне краінай на пасадзе прэм'ер-міністра.

Нагадаем, што 9 красавіка заканчваюцца паўнамоцтвы Саргсяна на высокай дзяржаўнай пасадзе. Новы прэзідэнт, згодна з новай рэдакцыяй Канстытуцыі, мае выключна прадстаўнічыя функцыі. Аднак у яго кампетэнцыі, пагадзіцца ці не з прапанаванай парламентам кандыдатурай прэм'ер-міністра, які, паводле той жа Канстытуцыі, будзе кіраваць выканаўчым блокам. Паводле ўсіх прагнозаў, новым кіраўніком урада стане Серж Саргсян. Аднак з такой перспектывай Пашынян не згодны: ён лічыць, што план уладаў можна сарваць. Для гэтага патрэбна, каб на фініш яго паходу 13 красавіка на сталічнай плошчы Свабоды сабраліся сотні тысяч чалавек. Палітык не выключае таксама зацяжнога характару пратэстаў — аналага кіеўскага Майдану.



### Рэджэп Таіп Эрдаган

Кіраўнік Турцыі падчас выступу на адкрыцці фестывалю мастацтваў 31 сакавіка прачытаў у Сафійскім саборы першы верш Карана. Учынак выклікаў вялікі рэзананс, бо гэты гістарычны помнік у Стамбуле лічыцца часткай хрысціянскай традыцыі.

Сафійскі сабор быў пабудаваны Візантыйскай імперыяй у VI стагоддзі і з'яўляўся Патрыяршым саборам Грэчаскай праваслаўнай царквы. Пасля заваёвы Канстанцінопаля асманамі ў 1453 годзе ён быў перабудаваны ў мячэць, якая доўгі час была самай вялікай мячэцю ў свеце. Згодна з загадам Атацюрка, з 1935 года сабор функцыянуе як музей, што, быццам бы, задавальняла ўсіх. Аднак падчас рэалізацыі палітыкі «асманізацыі», якую праводзіць Эрдаган, храм зноў стаў выкарыстоўвацца для мусульманскіх службаў.

У 2015 годзе ўпершыню за 85 гадоў мусульманскі святар прачытаў унутры будынка малітву з Карана. У наступным годзе гэтыя чытанні працягнуліся падчас святога месяца Рамадана. Цяпер эстафету падхапіў сам кіраўнік дзяржавы. Дарэчы, гарант прысвяціў сваю малітву заваёўніку Стамбула. Паколькі турэцкі лідар чытаў тую малітву на Вялікдзень, некаторыя хрысціянскія выданні пабачылі ў гэтым нават здзек з вучэння Хрыста.

Як і трэба было чакаць, найбольш жорстка адрэагавала на ўчынак Эрдагана Грэцыя, якая выказала афіцыйны пратэст супраць выкарыстання гістарычнага помніка ў рэлігійных мэтах. Між тым, прэса лічыць, што крытыка звонку наўрад ці паўплывае на Анкару, якая працягне папулярызаваць ідэю вяртання сабору статусу мячэці.

# Жыццё, падзеленае мяжой

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Рыжская мірная дамова, падпісаная 18 сакавіка 1921 года без удзелу беларускай дэлегацыі, падзяліла нашу краіну паміж дзвюх дзяржаў. Мяжа прайшлася лязом па шматлікіх беларускіх сем'ях, ламала лёсы, губіла жыцці. Хтосьці прыстасоўваўся, хтосьці змагаўся, хтосьці загінуў падчас пошукаў лепшага жыцця ў БССР.**


Польскі памежны патруль

## У пошуках шчасця ў БССР

Міжваенная Заходняя Беларусь была не вельмі багатым рэгіёнам Другой Рэчы Паспалітай. «Зямельны голад» і адсутнасць працоўных месцаў прымушалі беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў ездзіць на сезонныя працы ў краіны Балтыі ці эміграваць у ЗША і Аргенціну.

Аднак значная частка заходніх беларусаў імкнулася збегчы на Усход. Ім падавалася, што ў БССР жылі тыя ж беларусы, была бясплатная адукацыя і наяўнасць працы. Да таго ж да сярэдзіны 1930-х гадоў у адносінах да большасці польскіх перабежчыкаў савецкія ўлады не прымянялі жорсткіх рэпрэсійных мераў. «Заходнікаў» правяралі, а потым дазвалялі ўладкоўвацца на працу, паступаць у інстытуты і ўніверсітэты. Пасля гэтага перабежчыкі яшчэ больш упэўніваліся, што ўсё кепскае ў іх жыцці ўжо прайшло.

Увосень 1931 года з такімі думкамі на «рыжскую мяжу» накіраваўся жыхар вёскі Хатуцічы Маладзечанскага павету Васіль Манід. Хлопцу тады было 20 гадоў. Ён паспеў скончыць некалькі класаў вясковай школы і займаўся сялянскай працай. У бацькоўскай гаспадарцы было 7 дзесяцін зямлі, адна карова, дзве свінні, дзве авечкі. Грошай у бацькоў не было, таму маці аддала хлопцу свой залаты заручальны пярсцёнак, каб той расплаціўся каштоўнасцю з праваднікам, які вадзіў «фігуркі праз кардон». Васіля павёў жыхар вёскі Урублеўшчына Фёдар Васюкевіч.

«Вакно на мяжы» знаходзілася побач з памежным знакам №580, у раёне вёскі Павязынь. Там, дарэчы, знаходзілася і аднайменная стражніца КАП. Польскі кардон беларус прайшоў без прыгод, а вось савецкія «зялёныя фуражкі» нелегала «прынялі». Вартавы Шухалаў (прозвішча пазначана ў анкеце ДПУ. — І.М.) затрымаў Маніда і даставіў яго на заставу ў Глушанах. Там беларуса абшукалі, дапыталі і хутка накіравалі ў Мінск, дзе змясцілі ў турму ДПУ. Падчас допыту хлопец шчыра распавёў пра бацькоўскую гаспадарку і пра тое, што сям'і прыходзілася плаціць падаткаў 80 злотых і яшчэ 22 злотых за страхоўку маёмасці.

Праз год польска-савецкую мяжу перайшоў сваяк Васіля, жыхар вёскі Вяжуць Лебедзеўскай гміны Маладзечанскага павета Рыгор Мялюк. Дакладна не вядома, побач з якім памежным знакам ён прайшоў у Саветы, аднак, дзякуючы дакументам з архіву КДБ Беларусі, мы ведаем, што сваё жаданне стаць грамадзянінам СССР Рыгор Мялюк выказаў у сувязі з «цяжкім матэрыяльным становішчам яго сям'і і тым, што гаспадарка бацькоў не можа забяспечыць патрэбы іх сям'і».

## На новай Радзіме

Пасля мінскай турмы і Васіля Маніда, і Рыгора Мялюка (знаходзіўся ў турме 8 месяцаў. — І.М.) накіравалі ў карантынны лагер АДПУ у Сароў пад Арзамасам, дзе вязні знаходзіліся ў будынках былога праваслаўнага манастыра. У 1933 годзе беларускіх хлопцаў вызвалілі. Манід пераехаў у Златавуст і там уладкаваўся на працу на металургічны завод. Здавалася, яго жыццё наладжваецца.

«Вітаю Вас дарагія мама і тата, браты і сёстры. Дасылаю Вам ліст, у якім паведамляю, што я жывы і здаровы і Вам жадаю ўсяго добрага. Ваш ліст я атрымаў, але атрымаў я яго са спазненнем, таму, што вы напісалі стары адрас, а я перайшоў на новае месца і змяніў свой адрас. Як атрымаў Ваш ліст, то быў вельмі рады, што вы мяне не забылі. [...] Заробак мой у месяц у сярэднім 400 рублёў, так што грошы ў мяне ёсць, але праца небяспечная для жыцця, бо працуем там, дзе плавяць сталь, чыгун. Але гэта ўсё пустое. Затое навучуся добра працаваць і далей будзе лягчэй [...]. У войска (Чырвоную Армію. — І.М.) я восенню не пайшоў. Быў залічаны ў пераменны склад. Буду кожны год хадзіць на вучэнні на працягу пяці гадоў. Першы год, то бок у 1937 годзе, пайду на тры месяцы (гутарка ішла пра вайсковыя зборы. — І.М.), а потым па месяцу. Гэтую зіму, у сувязі з тым, што было шмат працы, я адарваўся ад вучобы. Але ў будучым збіраюся не кідаць яе, таму што без гэтага ў СССР жыць нельга. Калі атрымаеце мой ліст, напішыце мне, што ў Вас чуваць. Ці дасылае дадому лісты Міша і Мікола (відавочна, гутарка ідзе пра людзей, якія пераходзілі мяжу разам з Манідам. — І.М.)? Напішыце, як святкавалі Раство і як моладзь гуляла. Да пабачэння! Пішыце лісты часцей, не шкадуйце паперу. Перадавайце прывітанне ўсім хлопцам і дзяўчатам», — пісаў у студзені 1936 года ў лісце да сваякоў, якія засталіся за «рыжскім кардонам» Васіль Манід.

Дарэчы, гэтая вестка — адзіная, якая захавалася ў родных ад Васіля.


Заходнебеларускія хлопцы. Шмат з іх шукала шчасця ў БССР

## Канец «казкі»

У жніўні 1937 года ўсе мясцовыя органы НКУС атрымалі загад №00485, а пазней ліст з назвай «Аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай выведкі ў СССР». Гэты дакумент распачаў так званую «польскую аперацыю» НКУС, падчас якой арышту падлягала значная колькасць грамадзян СССР польскага паходжання. Гутарка ішла не толькі пра этнічных палякаў, але ўсіх тых, хто нейкім чынам быў звязаны з Польшчай.

Напрыклад, меў сваякоў у Заходняй Беларусі ці проста перабег з Польшчы ў БССР. НКУС абвінавачвала гэтую катэгорыю асоб, сярод якіх было шмат этнічных беларусаў, у супрацы з польскай выведкай ці арганізацыі шпіёнска-дыверсійнай дзейнасці. У Архіве Федэральнай службы бяспекі Расіі па Чалябінскай вобласці захоўваецца следчая справа Васіля Рыгоравіча Маніда, якога ў кастрычніку 1937 года арыштавалі на працоўным месцы ў Златавустаўскім металургічным заводзе.

15 лістапада 1937 года беларуса прысудзілі па 58 артыкуле (пункты 6.9 і 11 — вораг народа) Крымінальнага кодэкса РСФСР да смяротнага пакарання. Расстралялі ўраджэнца Заходняй Беларусі 22 лістапада 1937 года ў Чалябінску. Варта адзначыць, што Васіль, знаходзячыся ў РСФСР, паспеў ажаніцца, у яго нават нарадзіўся сын. Што стала з сям'ёй, невядома.

У гэты ж час арыштавалі і Рыгора Мялюка, які на той момант ужо паспеў уступіць у камсамол. Гэты чалавек пражыў на месяц больш за сваяка — яго расстралялі 28 снежня 1937 года як ворага савецкага народа. Усяго падчас так званай «польскай аперацыі» НКУС толькі на тэрыторыі Беларусі быў асуджаны 19 931 чалавек, з якіх 17 772 прысудзілі да «вышэйшай меры сацыяльнай абароны». У маштабе ўсяго Савецкага Саюза рэпрэсіі па гэтай справе зазналі каля 140 тысяч чалавек.

Пра лёс Маніда і Мялюка іх сваякі доўгі час нічога не ведалі. Калі ў 1937 годзе лісты ад блізкіх з СССР перасталі прыходзіць у Заходнюю Беларусь, бацькі хлопцаў пачалі падазраваць нядобрае. Праз два гады савецка-польскую мяжу перайшла Чырвоная Армія — і хутка жыхары заходнебеларускага рэгіёна самі даведаліся, што такое рэпрэсіі і дэпартацыі. Каб не ставіць сям'ю ў небяспеку, бацькі Васіля і Рыгора спалілі амаль усе здымкі і лісты, якія прыходзілі ад хлопцаў з СССР. Тады не тое што за паперку — за неасцярожна кінутае слова можна было апынуцца ў курапацкіх ямах.

У пачатку 1930-х у БССР з Хатуцічаў і Вяжуцяў збеглі некалькі дзясяткаў маладых людзей. Усе спадзяваліся на лепшае. Аднак, відавочна, амаль усе сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Ужо пасля смерці Сталіна на Радзіму вярнуўся адзін з тых перабежчыкаў і распавёў, што застаўся жывым толькі дзякуючы таму, што доктар даў 17-гадоваму беларусу пашпарт памерлага пацыента. Змяніўшы прозвішча, перабежчык змог уратавацца ад НКУС.

У студзені 1989 года пракуратура Чалябінскай вобласці пасмяротна рэабілітавала Рыгора Мялюка. Праз паўгады рэабілітавалі і Васіля Маніда. Іх бацькі так і не дачакаліся не толькі сыноў, але і прабачэння за злачынствы савецкай сістэмы. Месца пахавання гэтых людзей невядомае. Магчыма, прах беларусаў і тысяч іншых ахвяр бальшавіцкіх катаў у спакоі ў прыгарадзе Чалябінска, у месцы Залатая гара, дзе былі знойдзены парэшткі ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

**Аўтар выказвае шчырую падзяку Віктару Голубу, сваяку Васіля Маніда і Рыгора Мялюка, за перададзеныя ім архіўныя матэрыялы.**

# Марыў пра адраджэнне аўтакефаліі беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы

Пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч **Аўген Калубовіч** (Каханоўскі, 1910–1987) быў асуджаны за «беларускі нацыяналізм» на пачатку 1930-х і высланы на 3 гады ў Сібір. У 1934 годзе ён вярнуўся ў Мінск, вучыўся ў педагагічным інстытуце, працаваў кансультантам-метадыстам у Наркаме асветы БССР. Пазней апісаў падзеі зняволення і ўсё тое, што адбывалася ў ягоным жыцці і навокал у 1930-х ва ўспамінах «На крыжовай дарозе», якія стаяць у нашай лагернай мемуарыстыцы побач з творамі Францішка Аляхновіча, Ларысы Геніюш, Язэпа Германовіча.

На эміграцыі ў ЗША Аўген Калубовіч (Каханоўскі) да сярэдзіны 1950-х гадоў быў актыўным дзеячам Рады БНР, а калі адышоў ад палітычных справаў, засяродзіўся на навуковай дзейнасці. Ён стаў укладальнікам зборніка «Янка Купала і Якуб Колас 1882–1982: Вянок успамінаў пра іх», аўтарам прац па беларускай гісторыі, сярод якіх «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства», «Айцы БССР і іхны лёс» і іншых.

Для ягоных публікацый вельмі важнай была ідэя захавання памяці пра асобаў ці падзеі, знакавыя для беларускай гісторыі. У часопісе «Беларуская думка» (Саўт-Рывер) у 1973–1974 гадах быў апублікаваны артыкул Аўгена Калубовіча (Каханоўскага) пра ўжо на той момант даволі мала вядомага дзеяча рэлігійнай гісторыі Беларусі архіяпіскапа Варлаама (Шышацкага), таго самага, што некалі прысягнуў Напалеону. Гэтая асоба і сёння застаецца на маргінэсе нашай рэлігійнай гісторыі, таму, перадрукоўваючы тут артыкул амаль 40-гадовай даўніны (з захаваннем правапісу арыгіналу), мы аддаём даніну памяці і яго аўтару, і герою.

У арыгінальнай публікацыі было багата спасылак на гістарычныя крыніцы, якія тут мы апускаем. Зацікаўленыя даследчыкі могуць знайсці ў беларускіх бібліятэках арыгінал артыкулу, каб спраўдзіць звесткі, на якія абапіраўся аўтар.

**Наталля Гардзіенка**



Аўген Калубовіч (Каханоўскі)

З ліпеня 1813 г. у перадсьвітальных прыцемках із Магілёва таропка выяжджала закрытая карэта. Горад яшчэ спаў, калі із архірэйскага замку жандар і сьвятар вывелі трэцяга й зараз-жа фурману загадалі ад'яджджаць. Калі карэта ўехала на Быхаўскі тракт, узяўшы кірунак на поўдзень, той трэці ў вапошні раз аглянуўся назад і, наколькі гэтаму дазваляла маленькая шыба, глянуў на горад, на цёмныя сілуэты царкоўных галоў, тануўшых у пашырэлым небе, і перахрысьціўся.

Хто-ж гэта трэці? Куды вяла ягоная дарога?

Ім быў архіяпіскап Магілёўскі й Віцебскі Варлаам (Шышацкі, 1749–1823), а дарога ягоная вяла ў ссылку. Пра яго, незаслужана намі забытага, гэты артыкул.

...Пачыналася напалеонаўская вайна.

Агромністая армія эўрапейскай кааліцыі ў раёне Коўні перайшла мяжу Расейскай імпэрыі — Нёман. Палову гэтай Вялікай арміі (як яна мянуецца ў гісторыі) складалі французы; другую палову (болей за 200.000 жаўнераў) — фармацыі Прусіі, Аўстрыі, Італіі, Саксоніі, Баварыі, Вэстфальскага каралеўства, Вялікага герцагства Варшаўскага і іншых краёў. Гэта была армія, што гаварыла на 16 мовах.

Па простай лініі яна йшла на Вільню, нідзе не спатыкаючы ніякіх азнакаў супраціву.

На чале арміі стаяў францускі імпэратар Напалеон Банапарт, які добра ведаў, што нутраная адсталасьць і дэспатызм Расеі зусім ня спынялі яе ад захопу ўсё новых і новых тэрыторыяў. 15.VIII.1811 г. у Цюільрыйскім палацы ў Парыжы на ўрачыстым прыйме дыпляматаў расейскаму паслу Куракіну ён публічна сказаў: «Я не хачу вайны... але вы самі хочаце далучыць да Расеі гэрцарства Варшаўскае й Данцыг. Пакуль тайныя намеры вашага двара ня станецца адкрытымі, я буду павялічваць армію, каторая стаіць у Нямеччыне». Вы разьлічваеце на саюзьнікаў, але дзе яны? Ці ня Аўстрыя, у якой вы адабралі ў Галіцыі 300 тысяч душ? Ці ня Прусія, якая памятае, як у Тыльзіце ейны добры саюзьнік Аляксандар адабраў у яе Беластоцкую акругу? Ці ня Швэцыя, якая памятае, што вы напалову яе зьнішчылі, адабраўшы ў яе Фінляндыю? Усе гэтыя крыўды ня могуць быць забытыя, усе гэтыя абразы адпомсьцяцца — цэлы кантынэнт будзе супраць вас!

Таму, калі 3.V.1812 г. ён высылаў у Вільню для перамоваў з Аляксандрам I гэнэрал-лейтэнанта графа Нарбона (былога міністра Людовіка XVI), ён даручыў яму добра выведаць і пра палітычныя настроі ў гістарычнай Літве, толькі 17 год перад тым канчальна зруйнаванай і таксама далучанай да Расеі.

Увайшоўшы ў Вільню на чацьвёрты дзень і спатканы там зь вялікай пашанаю, Напалеон не марудзіў: 1 ліпеня 1812 году, на старанні беларускіх патрыётаў Солтанаў, Сапегаў, Ельскіх, Храптовічаў і іншых, зь ягонае згоды было абвешчана аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага, незалежнага ад гэрцарства Варшаўскага (паўсталага ў 1807 г.).

Калі 20 ліпеня корпус маршала Даву набліжаўся да сьценаў Магілёва, тут ужо ведалі пра падзеі ў Вільні. Ведалі, што пад кіраўніцтвам тымчасовага ўраду з графам С. Солтанам на чале, хоць і ўва ўмовах вайны, пачалася хуткая адбудова адроджанай дзяржавы.

Магілёў, які пад расейскай акупацыяй быў даўжэй за Вільню (40 год), яшчэ з большай сілай прагнуў вырвацца із пашчы жорсткага заваёўніка. Гэтым і тлумачыцца, што прыход Вялікай арміі ён спаткаў із сьветлымі надзеямі. Напярэдадні, калі горад яшчэ не пакінуў расейскі губэрнатар Талстой, тут зь ініцыятывы Быхаўскага паветавага маршалка П. Крогера паўстала камісія для спатканьня саюзьніцкай арміі. І маршал Даву, пры ўездзе ў Шклоўскую браму, быў урачыста вітаны. Галава магістрату Р. Груша й бурмістар І. Пушкарэвіч на белым хлебе паднесьлі жаданаму госьцю залаты й срэбраны ключы ад гораду. З натоўпу крычалі: «Віват, Напалеон!».

З увагі на тое, што актам 1.VII.1812 г. Вялікае Княства Літоўскае абыймала Віленскую, Гарадзенскую, Менскую губэрні й Беластоцкую акругу, для Магілёўскай губэрні (як і Віцебскай і Смаленскай) адразу-ж была створана асобная беларуская адміністрацыя — часовае цывільнае кіраўніцтва, 18 жніўеня пэрсанальна абноўленае й зацьверджанае Напалеонам. У кіраўніцтва ўваходзілі: судзьдзя Юры Лускіна — старшыня, губэрнскі маршалак Іван Цеханавецкі, б. войскі Іван Гальнскі, рагачоўскі паветавы маршалак Пузына, граф Струцінскі — сябры й судзьдзя Мількевіч — гэнэральны сакратар. Цывільнае кіраўніцтва зарганізавала ў губэрні лякальныя органы ўлады; з дабраахвотнікаў паклікала Нацыянальную Гвардыю ў Магілёве (400 гвардзейцаў) і ўва ўсіх паветах; распачала фармаваньне Магілёўскага палка рэгулярнае арміі, у дадатак да 5-ці палкоў кавалерыі й 4-ох пяхоты, якія фармаваў вайсковы міністар Вялікага Княства кн. Аляксандар Сапега.

Беларускае нацыянальнае жыцьцё аднаўлялася.

Архіяпіскап Варлаам — адна із самых яркіх асабістасьцяў у Магілёве ў тым часе. Паходзіў ён з Чарнігаўшчыны й сваю духоўную кар'еру пачынаў на Ўкраіне. Ад 1787 г. ён — ігумен Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра й старэйшы над 8 іншымі, прыпісанымі да яго, манастырамі. У 1794–1795 гг. — архімандрыт Спасаўскага манастыра ў Дзятлаве каля Наваградка. 12(23) красавіка 1795 г. быў хіратанізаваны на япіскапа Жытомірскага вікарыяту Менскай эпархіі, скуль у 1805 г. пераведзены на япіскапскую катэдру ў Магілёў, дзе ў 1808 г. узьведзены на архіяпіскапа. Біёграфы ягоныя адзначаюць у ім высокую багаслоўскую й філязофскую эрудыцыю, «бліскучыя адміністрацыйныя й пэдагагічныя здольнасьці».

Архіяпіскап Варлаам адразу й поўнасьцю перайшоў на бок адроджанага Вялікага Княства Літоўскага й Напалеона, на вернасьць каму прысягнуў і загадаў прывесьці да прысягі ўсё падначаленае яму духавенства. Ён актыўна супрацоўнічаў із часовым цывільным кіраўніцтвам, падпісаўся пад дэкляярацыяй аб прылучэньні Магілёва да рэшты Вялікага Княства.

Самае-ж галоўнае: уладыка марыў пра адраджэньне аўтакефаліі беларуска-украінскай праваслаўнай царквы. У Магілёве, які ў XVII–XVIII стст. быў сталіцаю праваслаўнае царквы на ўсю Беларусь, а ад 1712 г. (па скасаваньні Луцка-Астроўскай эпархіі) і адзінай япіскапскай катэдрай у цэлай Рэчы Паспалітай, — у 1812 г. зьявілася гэтая ідэя, і архіяпіскап Варлаам захапіўся ёю. Паводля сьведчаньняў сучаснікаў і аднадумцаў, а ў тым і магілёўскага летапісца ігумена Арэста, тады сябры Магілёўскае кансысторыі, які быў ня толькі простым сьведкам магілёўскіх падзеяў, а і саўдзельнікам і фактычным супольнікам і памочнікам Варлаама ў цэлым шэрагу справаў (а пазьней падзяліў і лёс ягоны), — архіяпіскап Варлаам, яшчэ будучы ігуменам Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра, ведаў, што Сойм Рэчы Паспалітай схіляўся да ўнезалежненьня царквы ад расейскага Сыноду, неканапічна ў 1686 г. яму падпарадкаванай. Ведаў таксама, што 26.III.1790 г. Сойм прыняў пра гэта пастанову й што тады-ж дыскутаваўся праект асобнай патрыярхіі. Мінула ўсяго 21 год ад часу, калі з благаслаўленьня Канстантынопальскага патрыярха 15.VI — 2.VII.1791 г. у Пінску адбыўся царкоўны сабор, які вырашыў выйсьці з-пад улады кіеўскага мітрапаліта, расейскага Сыноду і аднавіў аўтакефалію сваё царквы... але, на ультыматум расейскага пасла Булгакава у наступным годзе па акупацыі войскам расейскім усёй Беларусі, правабярэжнай Украіны і ўсходняй Польшчы царква прымусова была зноў вернутая пад расейскую юрысддыкцыю. Ігумен Арэст і іншыя сучаснікі сьведчаць, што ў 1812 г. Варлаам няраз прыгадваў тыя падзеі й выказваў цьвёрдую веру ў стварэньне па вайне беларуска-украінскай патрыярхіі, на галаву якой сам мажліва быў кандыдатам.

Усё, здавалася, варажыла на ўдачу. Аднак 19 кастрычніка кола гісторыі павярнулася назад: на загад Напалеона саюзьніцкая армія пакінула Маскву й вырушыла на захад.

Навіна гэтая ашаламіла і Беларусь, і ўсю Эўропу.

17 лістапада армія мінула Смаленск, а ўжо 24-га Магілёў быў заняты расейскім войскам. І хоць у загадзе расейскага камандаваньня 26.XI.1812 гаварылася, «чтобы Белорусским жителям не чинить притеснений и упреков», а ў вадозве гэнэрала А. Ажароўскага, заняўшага Магілёў, — «само собой разумеется, что в клятве принужденной... нет ни малейшей святости и что оная совершенно уничтожается», а «каждый сын отечества с душевным удовольствием да внидет в пределы своих законных обязанностей», — на самай справе, як гэта было ўжо ня першы й не апошні раз, супраць усіх г. зв. «изменников отечества», а ў тым і супраць архіяпіскапа Варлаама, неадкладна пачаліся «суд и расправа».

У нашых руках «Сборник Императорскаго русскаго историческаго общества», т. 139 (СПб, 1912). У ім асобным разьдзелам — судовая справа архіяпіскапа Варлаама (94 дакумэнты).

Працяг на стар. 12 »

# Марыў пра адраджэнне аўтакефаліі беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 11**

На ўступе да іх Расейскае гістарычнае таварыства даволі блізка да праўды раскрывае акалічнасці справы. Яно сцьвярджае, што «перад прыходам Вялікай арміі ў межы Беларусі й Літвы тут усё было падрыхтавана да спатканьня ворага расейскага народу з пакланеньнем і адданасьцю.. Насельніцтва не магло, вядома, выявіць таго патрыятычнага ўздыму, які так зырка ўспыхнуў у чыста-расейскіх губэрнях», і не рабіла «партызанскіх нападаў на французаў… Тут пануючы стан і ўсё тое, што цягнулася да яго з матар'яльных меркаваньняў, было на баку ворага Расеі — Напалеона… Ці ня гэтая асаблівасьць беларускага краю й стварыла глебу для зьяўленьня такой асобы, як Варлаам Шышацкі, абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе».

Пачатак справы — загад цара Аляксандра I з 5(17).XII.1812 г. у якім ён «находя нужным удалить от управления Епархиею Витебского и Могилевского Архиепископа Варлаама, повелевает» Сыноду «произвесть на месте … изследование о поступках Варлаама во время нашествия врага и, с мнением Святейшаго Синода, представить» яму. «Святейший Правительствующий Синод… для должного и непременного по сему Имянному Высочайшему Указу исполнения» 9(21).XII.1812 г. «приказали… Синодальному Члену, Преосвященному Феофилакту, Архиепископу Рязанскому… по прибытии его… в Могилев и по объявлении о сем Высочайшем повелении Архиепископу Варлааму», каб (у дадатак да царскага загаду) «не оставлено было разсмотреть и о том, что, ежели, и кроме его, Архиепископа Варлаама, из принадлежащих к Епархии Могилевской духовного звания людей окажутся в подобных поступках виноваты, то бы и о таковых, по удалении их от должностей и по определению на места их других, произведено было подобное изследование».

Магілёўскі архіяпіскап бярэцца «под стражу», а разанскі распачынае сьледзтва.

11(23).VIII.1813 г. «Всеподданейший Рапорт Синода» ўжо паведамляе цару, што «по Имянному Вашего Императорского Величества Высочайшему Указу, состоявшемуся минувшего мая 1(13)-го дня, на подносимом от Синода докладе» — «Консисторский Секретарь, приказные служители и прочие светского звания, находящиеся в ведомстве Могилевской Епархии, отосланы в тамошнее Губернское Правление для размотрения и суждения вместе с подобными им по гражданскому ведомству», а архіяпіскап Варлаам «отправлен в Черниговъ», дзе ён публічна дэградаваны да простага манаха й сасланы ў пажыцьцёвае «заточение» ў Ноўгарад-Северскі Спаскі манастыр. Ігумену манастыра загадана «иметь за ним наблюдение, чтобы он, Варлаам, ни с кем из стороны не имел никакого сношения и переписки».


Архіепіскап Магілёўскі і Віцебскі Варлаам (Шышацкі)

У дакумантах ёсьць апісаньне й таго зьдзеклівага абраду дэградацыі, але паўней і больш жывы абрад гэты, поўны хвалюючага драматызму, узноўлены па ўспамінах сьведкі, былога Чарнігаўскага сэмінарыста І. Кулжынскага.

11 ліпеня ў катэдральны сабор, запоўнены «монастырскими настоятелями», «градским духовенством», цывільнымі ўрадоўцамі, сэмінарыстамі, у асысьце Чарнігаўскага архіяпіскапа Міхала быў уведзены архіяпіскап Варлаам. Ён быў у поўным архірэйскім адзеньні і спатканы «со славою». Пры «гробовой тишине» сакратар Чарнігаўскай кансысторыі «посред церкви» прачытаў «Высочайшее конфирморавонное определение Синода», пасьля чаго пратадыякан Юстын зьняў з архіяпіскапа мітру, панагію, амафор, сакас і іншыя адзеньні. Яму падалі расу й клобук. Варлаам хутка зышоў з амбону, праз бакавыя дзьверы ўвайшоў у алтар і папрасіў вады. Чарнігаўскі ўладыка «плакаў горкімі сьлязамі і пазьней, па сасланьні Варлаама, у часе літургіі заўсёды плакаў».

У афіцыйных расейскіх публікацыях (і прыжыцьцёвых, і пазьнейшых) Варлаам малюецца як «отъявленный злодей, крамольник и гордый честолюбец, погибший из желания быть патриархом».

«Але ня тое мы чуем зь іншае крыніцы, на якую ніхто яшчэ не зьвярнуў ніякае ўвагі. Крыніца гэтая — публічная апінія, — пісаў у вабароне Варлаама прат. А. Хайнацкі з Валыні. — Наўсуперак усім друкаваным «толкам и пересудам» грамадзкая апінія ня толькі не асуджае Варлаама, але ўважае яго за міжвольную ахвяру, паўшую не дзеля «крамолы и честолюбия», а ў няроўным змаганьні з акалічнасьцямі».

Прывабную атэстацыю мужнай і трагічнай асобе нашай гісторыі даў ведамы беларускі лексікограф і фальклярысты І. Насовіч (які ў 1808–1812 гг. быў студэнтам Магілёўскай духоўнай сэмінарыі, жыў у архірэйскім замку і ў 1812 г. сам прымаў жывы ўдзел у падзеях таго часу). У сваіх успамінах ён характарызуе Варлаама як «строгага манаха», «дзейнага, нястомнага й патрабавальнага да ўсіх тых, хто ўхіляецца ад праўдзівых шляхоў. Ён любіць праўду, ня зносіць хітрасьці й лісьлівасьці, асабліва ў духоўных асобах». Наагул-жа, у асяродзьдзі беларусаў і ўкраінцаў павага, пашана й сымпатыі заўсёды былі на баку Варлаама.

Мо ў сувязі із усім гэтым хадзілі чуткі, што цар Аляксандар нібы хацеў «памілаваць» яго і нават вярнуць яму адабранае архіяпіскапства, ды Варлаам ад міласьці царскай адмовіўся, застаўшыся ў ссылцы, у сваёй нязвычайнай кельлі — над манастырскай брамаю пад званіцай.

Пакутаваў там 10 год. Згубіў здароўе і зусім асьлеп. Некаторыя настаўнікі Ноўгарад-Северскай гімназіі й духоўнай школы, не зважаючы на строгую забарону Сыноду, вечарамі хадзілі да яго чытаць, і ён гадзінамі слухаў. Яны працягнулі таксама вяроўку паміж уваходам, які вёў у ягоную кельлю, і манастырскай царквой. Брацця манастырская бачыла, як, трымаючыся за вяроўку, нядужы й сьляпы манах-вязень, былы Магілёўскі й Віцебскі архіяпіскап, мажлівы кандыдат на патрыярха беларуска-украінскай праваслаўнай царквы, павольна пасоўваўся ў кірунку манастырскай царквы на кожную Божую Службу.

Аднаго дня ў 1823 годзе вяроўка была зьнятая. У той дзень (устанавіць яго нам не ўдалося) Варлаама паклікаў да Сябе Бог.

**Падрыхтавала да публікацыі Наталля Гардзіенка**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №359

Падпісана да друку 06.04.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.